

Валачэбнікі → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Паўстанцам Крыншчыны → 8


http://niva.iig.pl

redakcja@niva.bialystok.pl



№ 20 (2975) Год LVIII | Беласток, 19 мая 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Ян Тарасевіч як сімвал Княства

Як піша Віктар Скарабагатаў, «Ян Тарасевіч абышоўся без славы, але цяпер слава не абыдзецца без яго». Ян Аляксеевіч Тарасевіч нарадзіўся 23.09.1889 года. Ён — кампазітар, піяніст, педагог. Закончыў кансерваторыю ў Санкт-Пецярбургу (1912). Пакінуў пасля сябе больш за сто песень і інструментальных фартэпіянна-вакальных твораў. Ян Тарасевіч да самай смерці называў сябе беларускім кампазітарам.



Рабэрта Скальмоўскі і прафесар Алег Латышонак пры памятках па Яне Тарасевічу

**Беларуская ідэя заўсёды**
прасякала творчасць Яна Тарасевіча. Ужо ў 1919 годзе былі напісаны вакальныя творы на вершы беларускіх паэтаўкласікаў. Ён выхаваў як мінімум чатырох прафесараў Варшаўскай акадэміі музыкі і самага вядомага сёння дырыжора ў Польшчы Ежы Максымюка. Ян Тарасевіч быў першым, хто напісаў музыку да вершаў Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа. З усёй спадчыны Яна Тарасевіча захавалася 110 твораў: харавыя на вершы толькі беларускіх паэтаў; вакальныя — на вершы беларускіх, польскіх і рускіх паэтаў; камерныя творы для струнных інструментаў, ансамблі; самы вялікі скарб — фартэпіянны. Памёр кампазітар 18.06.1961 года ў Беластоку. Яго магіла знаходзіцца ў гарадзе Сакольцы. Ягоны вучань Анатоль Чарапінскі захаваў найбольшую частку спадчыны кампазітара і ўвесь архіў, і перадаў яе беларускаму народу. Тарасевіч стаў ахвяраю менавіта палітычных падзей мінулага стагоддзя. Ягоны лёс — знак эпохі для беларусаў.
Ян Тарасевіч

**не трымаўся модных кірункаў**
музыкі, з-за чаго і не дасягнуў хуткага прызнання. Затое цяпер яго творы параўноўваюць з шэдэўрамі творцаў кшталту Рахманінава, Скрабіна. На радзіме Ян Тарасевіч вучыў ігры на піяніна ў школе ў Гродне, Саколцы і Беластоку. У Беластоку працаваў у музычнай школе Галены Франкевіч. І хаця адведвалі яго вядомыя кампазітары, Рахманінаў ці Сібеліус, у Беластоку ён быў забыты і амаль невядомы.

У гонар беларускага педагога, піяніста і кампазітара з Саколкі 10-12 мая 2013 г. у Падляшскай оперы і філармоніі адбыўся фестываль імя Яна Тарасевіча.

— Гэтаму беларускаму кампазітару і педагогу трэба аддаць памяць, — сказаў дырэктар Падляшскай оперы і філармоніі Рабэрта Скальмоўскі. — Я захапіўся гэтай асобай — і ягоны жыццяпіс адметны, і справа, якую ён пасля сябе пакінуў, таксама адметная. Калі я прыехаў у Беласток у ліпені 2011 года, у верасні прыйшоў дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Падляшскай маршалкоўскай управы Анатоль Вап і прынёс мне ноты, выдадзеныя раней Беларускім гістарычным таварыствам — ноты Яна Тарасевіча. Якраз тады сядзелі ў мяне ў кабінеце Вальдэмар Маліцкі, Ежы Сальвароўскі і Казлоўскі. Я даў гэтым дырыжорам ноты, і сцвердзілі яны, што „гэта вельмі пажондная музыка”. Праз пару дзён я пазнаёміўся з Ілонай Карпюк, ды яна менш „вінаватая” ў тым што адбываецца. Дзякуючы Іланце Вільчэўскай я пазнаёміўся з Ганнай Кандрацюк, якая пайшла



**па слядах забытага кампазітара.**
Я тады атрымаў ад яе версію ксера яе кнігі „W stronę Tarasiewicza”, прачытаў я гэтую кнігу ў адну ноч. І сцвердзіў, што Ян Тарасевіч з'яўляецца вялікім скарбам гэтых зямель. Мы трактуем гэтае прозвішча як сімвал высокага мастацтва, якое ўзнікала на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Я вельмі прывязаны ў гэты момант да быцця грамадзянінам ВКЛ. Паехалі мы з Ілонай Карпюк і дырэктарам Анатолем Вапам летась у лютым у Мінск, сустрэліся з міністрам культуры, з кіраўніком Дзяржаўнага архіва і спыталіся, ці можам карыстацца супольна Тарасевічам як сімвалам. Сімвал усіх гэтых творцаў, якія ў даялцінскім парадку Еўропы тут стваралі. Прагнем штогод рабіць фестываль яго імя, у час якога будзем іграць музыку, якая ўзнікла на тэрыторыі сённяшняй Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Беларусі, Расіі, іх кампазітараў — на адным дыханні можна пералічыць — дынастыю Агінскіх, Напалеона Орду, Казлоўскага, Радзівіла... Гэта як рукой працягнуць — па-суседску. Будзем выдаваць творы Яна Тарасевіча на піяніна для вучняў. Анатоль Вап успомніў мне яшчэ: „У нас, у Беларускім гістарычным таварыстве, ёсць

**памяткі па Яне Тарасевічу,**
між іншым піяніна, перададзеныя Анатолем Чарапінскім. „Дык давайце тое піяніна, паставім у нас у фае. Яно някранутае. І ягоны інструмент тут будзе стаяць назаўжды. Тут ёсць і іншыя памяткі, якія Таварыству ў дэпазіт перадала Ганна Кандрацюк. Хочам, каб Тарасевіч трактаваўся як частка культурнай спадчыны гэтай зямлі. І гэта важнае, каб глядзець над гэтымі межамі ў гэтай палітычнай сітуацыі, якая ёсць. Жэст з боку Міністэрства культуры Беларусі і Дзяржаўнага архіва Беларусі ўбачым у выглядзе гэтай выставы і ў

**шматгадовым фестывалі.**
Мне вельмі залежыць на тым, каб у наступным годзе паявіўся тут яшчэ больш лік артыстаў. Мы цяпер так запланавалі — мелі такі, а не іншы бюджэт. Стараемся ўжо за еўрапейскія трансгранічныя гранты, каб фестываль праз год быў ужо „ад парады”. Опера робіць шмат для еднасці, тоеснасці і мультыкультурнасці. Верым, што такая асоба як Ян Тарасевіч можа быць лакаматывам, раз'ясняючым святло над усімі творцамі, якія на тэрыторыі гэтых землях стваралі і ствараюць.

Алег Латышонак: — Мы, як беларуская грамадскасць, проста шчаслівыя, што адбудзецца такое ўшанаванне Яна Тарасевіча. Мы гадамі чакалі, пільнавалі памятак. Піяніна стаяла ў куце нашай сядзібы, у бібліятэцы. Для нас гэта рэліквія. Наша грамадства даведалася, што мелі мы такога вялікага кампазітара, дзякуючы Ганне Кандрацюк і Віктару Скарабагатаву з Мінска, бо гэта ён падрыхтаваў выданне гэтых нот, мы іх выдалі — рабілі тое, што змаглі. Тарасевіч чакаў свайго дня. Мы верылі ў гэты дзень.

У фае Падляшскай оперы і філармоніі ў пастаянным кутку памяці Яна Тарасевіча наведвальнікі, апрача піяніна, пабачаць ягоныя асабістыя прадметы, фотаздымкі, карэспандэнцыю. У фае (знакамітая акустыка!) на камерным канцэрце беластоцкіх музыкаў (Кшыштаф Станенда — фатрэпіяна, Рафал Дудзік — скрыпка, Шыман Стэмпка — віяланчэль) сабралася поўная зала слухачоў, якія пачулі творы Яна Тарасевіча, м.інш. «Смутную песеньку», «Раманс», «Роздум», затым пагпядзелі фільм Юркі Каліны «Ян Тарасевіч. Невядомы кампазітар» (паказаны быў ён таксама назаўтра) пра хаджэнне Ганны Кандрацюк па забытых сцежках кампазітара. 12 мая сабраўся яшчэ больш гурт слухачоў (мо варта было б фестываль праводзіць у галоўнай зале ПОіФ?) на канцэрце Іллі Сільчукова (барытон) і Тацяны Лойшы (фартэпіяна) беларускіх рамансаў (Яна Тарасевіча, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Леаніда Захлеўнага і Станіслава Манюшкі) ды канцэрце хору ПОіФ, які выканаў народныя беларускія творы ў апрацоўцы Міколы Равенскага ды песні Яна Тарасевіча на вершы беларускіх класікаў. Харошым клямарам для фестывалю музыкі Княства было выкананне велічнага «Вастрабрамскага літання» D-dur для салістаў, змешанага хору і фартэпіяна Юзафа Дашчынскага (1781-1844, з Рэчыцы) у аўтарскай транскрыпцыі Уладзіміра Байдава.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ




9 770546 196000

# Праўда — гэта дыскрэдытацыя?

Зусім нядаўна мяне выклікалі ў гродзенскае ўпраўленне КДБ. Размова ішла пра маю публіцыстычную дзейнасць, а канкрэтна — якраз пра артыкулы вашага пакорлівага слугі і сціплага рупліўца клавіятуры (раней казалі — пяра) у „Ніве”. Спярша мяне агарнула прафесійная гордасць — значыць, нешта вартае пішу, калі маю такіх пільных і ўважлівых „чытачоў”. Потым, схамянуўшыся, я прызямліў свой новы сумнеўны гонар — кім жа ім яшчэ займацца, калі на ўвесь горад над Нёманам засталося толькі чатыры публіцысты — два беларускія і два польскія, адзін з якіх ужо прыцягваўся да крымінальнай адказнасці і сядзеў у турме, а іншыя пераследаваліся пакуль у больш мяккіх формах. Гэта раней у Гродне былі газеты „Пагоня” і „Биржа информации”, незалежнае радыё...

У „высокім” ведамстве мне сказалі, што многія мае артыкулы могуць падпадаць пад крымінальны артыкул аб дыскрэдытацыі Рэспублікі Беларусь. Але калі журналіст піша пра тое, што затрыманага і нявіннага чалавека збіваюць міліцыянты ў пастарунку — то гэта дыскрэдытацыя дзяржавы? Дык хто яе дыскрэдытуе? Правядзіце расследаванне па гарачых слядах, зрабіце праверку па такім сігнале. Калі журналіст піша, што ў Гродне кепска ходзіць грамадскі транспарт — то гэта дыскрэдытацыя дзяржавы? То вылезьце са службовых аўто — і дзень-два паездзіце нашымі маршрутнымі аўтобусамі, самі пераканаецеся. Ці калі журналіст піша, што ў школах Гродна не засталося аніводнага паўнавартаснага беларускамоўнага класа — то гэта няпраўда? І што ў 1995 г. было зусім не так — у палове гродзенскіх школ былі беларускамоўныя класы! Ці калі галоўны кіраўнік вобласці публічна (!) заяўляе, што паводле яго асабістага загаду быў звольнены выкладчык універсітэта (!!!), а журналісты пра гэта пішуць — то хто дыскрэдытуе дзяржаву — высокі начальнік ці журналісты?! А тут ужо не толькі „дыскрэдытацыя дзяржавы”, але і іншы артыкул Крымінальнага кодэксу! То мы жывем паводле заканадаўства Рэспублікі Беларусь, ці паводле старажытнага выслоўя „Quod licet Jovi, non licet bovi” — „Што дазволена Юпітэру...”? Ці калі журналісты пішуць, як нейкія вандалы ў Дзятлаўскім раёне разбурылі ўнікальны будынак млына на рэчцы Моўчадзь, тым самым пазбавіўшы рэгіён цікавага турыстычнага аб’екта, які мог бы прынесці дзяржаве дзесяткі тысяч долараў. Дык хто ж дыскрэдытуе РБ — журналіст, які пра гэта піша, ці мясцовы начальнічак, які аддаў такі дзікі загад?!

Няма сумневу, што з журналістамі цяперашняя сістэма можа хутка „разабрацца” — кожнага „пісьменніка” можна пасадзіць на пару гадоў за краты, выпхнуць з краіны за мяжу альбо „нейтралізаваць” іншымі, больш жорсткімі спосабамі. Досвед такой працы ў іх гістарычны і вельмі вялікі. Толькі што з таго і што пасля? Гарадскія аўтобусы ад гэтага лепш курсаваць не стануць, ровень адукацыі ў мясцовым універсітэце не павысіцца, замежныя турысты з валютай у краіну не паваляць валам, а грамадзяне не пабагацеюць і ўладу больш любіць не будуць таксама. І кім урэшце яны будуць займацца пасля? Новыя „дела врачей”, перaслед якіх-небудзь генетыкаў, дырэктараў прадпрыемстваў, ці іншых „вредителей”. Але калі „ворагі народу” скончацца і там, тады непазбежна прыходзіць пара „чысткі” ўласных радоў. Па-іншаму не было, не бывае і не будзе. Для тых, хто кепска памятае гісторыю, нагадаю, што кіраўнікі „ўсемагутных” ведамстваў СССР — Яжоў, Берыя, Вышынскі і многія іншыя скончылі свой жыццёвы шлях вельмі сумна. Не кажучы ўжо пра дзесяткі тысяч шараговых супрацоўнікаў „чэка”, „эмгэбэ”, „энкавэдэ”, якія, выбраўшы прафесіяй і працай пераслед іншых, самі сталіся ахвярамі чалавеканенавісніцкай сістэмы.

Уладзе трэба зразумець, што нельга бясконца закручваць гайкі на крышцы катла з парай, інакш выбух такога „катла” непазбежны. Уладзе трэба зразумець, што журналісты — гэта не афіцыянты (барані Бог, не хачу тут пакрыўдзіць прадстаўнікоў гэтай патрэбнай людзям прафесіі) з нататнікам і фразай „Чего изволите?”. Журналіст мусіць быць у апазіцыі да кожнай улады, ён мусіць яе крытыкаваць, выяўляць заганы ў грамадстве, уздымаць актуальныя праблемы. Гэта яго пакліканне, гэта яго місія. Ён можа, канешне, недзе памыліцца ці „перагнуць палку”. Але крытыкай і праўдай нельга дыскрэдытаваць дзяржаву. Яе дыскрэдытуюць зусім іншым.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Усё гэта Атлантыда

У той час, калі самы папулярны ў Польшчы крэцініод «Супер Экспрэс» настойліва прабуе пераканаць чытачоў у тым, што Беларусь атакавалі бабрыгіганты, у афрыканскім Самалі канчаўся чарговы кантынгент смерці: дзяцей, жанчын і старых. Лічыцца, што там паміраюць кожны тыдзень ад 1000 да 1500 чалавек. У маўчанні. У невымоўных пакутах. У прыніжэнні і забыцці. Ад голаду. Толькі ў 2010-2012 гадах загінула такім чынам 250 тысяч чалавек. Паводле рапарта ААН, у бягучым годзе д’ябальскі лік узрасце да 300 тысяч. Гэта столькі ж, колькі насельніцтва горада Беласток. Ці агульнага насельніцтва Гайнаўскага, Бельскага, Сакольскага і Сейненскага паветаў — амаль цэлая Усходняя сцяна! Гэта так як быццам бы ўкаранелыя на гэтых землях польскія беларусы, украінцы, літоўцы і татары загінулі да апошняга чалавека. На працягу чатырох гадоў. У гэтым выпадку, на працягу чатырох гадоў можа знікнуць цалкам унікальная культура на ўскраінах — гэты інтрыгуючы кангламерат розных звычаяў, менталітэту, матэрыяльнай і духоўнай традыцыі, суседскіх спрэчак і дружбы, моўных запазычанняў і змешаных шлюбаў. Адным словам: Атлантыда!

Гэтую самалійскую Атланціс — кангламерат мноства плямён з рознымі культурамі, мовай і рэлігіяй — пагібнуў голад. Толькі што для крэцініода «СЭ» мерай увагі чытачоў можа быць толькі лёгказасвойваная, спажываная разам са сняданкам сенсацыя. Што людзі паміраюць ад голаду? Гэта ж у далёкай Афрыцы! А Сірыя? Хто клапоціцца пра Сірыю, калі адразу за польска-беларускай мяжой бабёр загрыз мужыка да смерці! Без сумневу, гэта быў не звычайны, толькі гіганцкі бабёр! І адразу прагучалі словы пра інвазію бабровых пачвар, генетычных выраджэнцаў! Мелі яны — паводле газеты — кіравацца асноўнымі сіламі ў сталіцу Беларусі. І хай бы яны атакавалі прэзідэнцкі палац! Ды дзе там — цалкам апанавалі Піншчыну і пачалі ствараць другі фронт у напрамку Гродна і Ваўкавыска. Яшчэ трохі, наехалі б і Польшчу...

Чаму мы плацім за гэтую лухту, немалыя за месяц, грошы? Вядома, гэта можна было б выдаткаваць на ратаванне Атлантыды.

Прычынай голаду ў Самалі з’яўляецца шматгадовая засуха. Але таксама і знясільваючыя бедную сельскагаспадарчую інфраструктуру гэтай краіны грамадзянскія войны на глебе племяннай і рэлігійнай варожасці. Тым не менш, высокую ступень віны за галодны армагедон нясуць салідарніцкія арганізацыі і тыя, што дзейнічаюць пад эгідай ААН, і тыя гуманітарныя, спансараваныя багатымі людзьмі з Еўропы і Паўночнай Амерыкі. Зразумела, аднак, што ў эпоху сусветнага эканамічнага крызісу меншае добрых самаран, а прыбывае эгаістаў. Гэтых добрых эгаістаў, якія не дапамогуць, але і не пашкодзяць. Яны хутчэй аддзеляцца ад свету газетай. Не адзіным у свеце «Супер Экспрэсам»!

Крызіс — якога б не быў паходжання — заўсёды апраўдвае пазіцыю парафіяльнага эгаізму. Прыводзіць словы Чапца з драмы Выспянскага тут, здаецца, не мушу. Горад стаў да іменту «чапцовым». Абыякавым. Бяздушным. Ворагам за ўсё і ўся. Ці вёска мусіць яму дараўнаць?

Памятаю, калісь у маёй вёсцы стандартам была чалавечая салідарнасць. Людзі дапамагалі адзін аднаму. Ці то ў праполцы ў агародзе, або ў дапамозе ў абмалоце. Мая вёска якраз напалову праваслаўная і каталіцкая. Раней, нягледзячы на гэта, хто якога веравызнання, людзі ахвяроўвалі сваю зычлівасць іншым. Сёння таксама няма падзелу па веравызнанні. Але няма таксама і дабрадумнага суседства.

Калі ў Беларусі апала паводка і раздражненыя грызуны вярнуліся ў свае спустошаныя праліўнымі рэкамі хаткі, ідыёты-рэдактары прыдумалі новую канцэпцыю: «Жыхароў густанаселенага ўсходняга ўзбярэжжа ЗША чакае армагедон!» І далей пішуць — 17-гадовы жыццёвы цыкл цыкад, казурак падобных да нашых хатніх цвыркуноў, падыходзіць да канца. На гэты год наступае іхняе шматмільённае акукленне німфаў, якія жывуць у глебе, да дарослай постаці. Адзіная іхняя загана ў тым, што неўзабаве пасля свайго выройвання яны пачынаюць спарванне, працяглае на каля трыццаць дзён. У гэты час яны невыносна актыўня і... гучныя! Дастаткова ньюсаў? Хопіць. Канчаю. Чытачоў заклікаю... надта пільна чытаць «СЭ».

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Судовы прысуд без адказаў

Я застаўся ў стане здзіўлення, выслухаўшы рашэнне беластоцкага Раённага суда па абвінавачваннях у фінансавым махлярстве, якога быццам бы меў дапусціцца ў 1990-х гадах Андрэй Жукавец, беларускі бізнесовец і актывіст апазіцыі, прысуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі (больш, чым патрабаваў пракурор). Шырока пра гэтую справу мы паведамлялі тыдзень таму. Для многіх назіральнікаў гэтага працэсу пастанова суддзі Шчэнснага Шыманскага пакідае шмат пытанняў. Для мяне таксама, але я, вядома, прымаю прынцып, што рашэнні незалежнага суда не абмяркоўваюцца. Адным з іх з’яўляецца пытанне аб тым, што здарылася з сотнямі тысяч долараў, якія асуджаны (неканчатковым рашэннем) дастаў ад двух беларускіх банкаў. Суддзя, абвяшчаючы прысуд, аб гэтым не ўспомніў. Так што я спытаўся пра гэта ў Андрэя Жукаўца:

— За гэтыя грошы былі дастаўлены матэрыялы і абсталяванне для вырабу неонавай рэкламы, як гэта прадбачвалі крэдытныя дагаворы. Банкаўскія інспектары пацвердзілі гэты факт, і гэта зафіксавана ў актах справы. Машыны і абсталяванне працавалі ў фірме і дзякуючы гэтым грашам мелі працу больш за 150 чалавек. Суддзя гэтыя доказы проста праігнараваў. Крэдыты былі пагашаны ў такой ступені як прадказвалі крэдытныя дагаворы. Пасля афіцыйнага закрыцця маёй фірмы за мой удзел у апазіцыйнай дзейнасці, супрацоўнікаў я заняў у іншай фірме і з яе дзейнасці пагашаў крэдыты. Банкі былі ўжо тады нацыяналізаваны і гэтых грошай не прымалі. Доказы, якія пацвярджаюць гэты факт, яшчэ ў 2001 г. Апеляцыйны суд прыпічыў у якасці доказаў, але суддзя Шыманскі не згадваў пра гэта.

Дадаў:

— Суддзя Шыманскі не падлічыў нават шкоду, якую быццам бы прыйдзецца вярнуць банкам! Патрабавалі кампенсацыі шкоды пракурор і адвакат беларускага боку. У прысудах за махлярства з’яўляецца гэта абавязковым, у адпаведнасці з законам. Суддзя мусіў бы разгледзець доказы пагашэння даўгу. Прытым у гэтым выпадку гэта няпраўда, што я ўзяў на сябе абавязацельства сплачваць да канца пагашэння першасны капітал. Я толькі абавязаны быў плаціць працэнты, што я рабіў нават пасля ліквідацыі фірмы (доказы ёсць у актах). Гэта суддзя Шыманскі таксама прамаўчаў.

На адным з сайтаў сацыяльных сетак, пасля абвяшчэння рашэння ў справе Андрэя Жукаўца, доўжылася дыскусія. Цікавай заўвагай падзяліўся пісьменнік, лаўрэат апошняй літаратурнай прэміі прэзідэнта Беластока Кшыштаф Гедройць:

— Гэта вядомы стандарт мыслення і дзеяння судоў у савецкай звычцы, якія такім жа чынам трактавалі злачынцаў і «злачынцаў». Пісаў пра гэта Чэслаў Мілаш у 1960-х гадах. Беластоцкі суд вырашыў, што Андрэй Жукавец асуджаны за «маральнае» злачынства перад беларускай дзяржавай, спасылаючыся на фінансавыя правілы. Згодна з законам іск састарэўся і суд не можа асудзіць яго, аднак усё ж можа, таму што дзеянне застаецца маральным злачынствам, а такое ніколі не састарыцца, і так вось заганны ранг акту бярэ перавагу над літарай закону...

Так сцвердзіў суддзя Шыманскі. На тым, аднак, асноўваецца дэмакратыя, каб суды пастанаўлялі ў імя закону, а не нораваў, звычаяў, перакананняў суддзі ці яго начальнікаў, або ў імя рэлігіі. Або інакш: гэта таксама спосаб, каб дабрацца да апазіцыянера. Гэта ўвогуле цікавая справа, як і ў старой Расіі, у Савецкім Саюзе, у сучаснай Расіі і ў Беларусі трактуецца дзяржава. Тыя, што шкодзяць дзяржаве, гэта амаральныя асобы. Жукавец, значыць, амаральны, — такое паведамленне ідзе да грамадзян. Мабыць, многія з іх падзяляюць меркаванне аб неабходнасці выключнай ролі дзяржавы. Можа перабольшаная, але ёсць такая прымаўка пра Расію, Беларусь: галоўная запаведзь — не будзе ў цябе іншых багоў, чым дзяржава твая!

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Адраджаецца валачобны абрад

**У час маёвай часткі юбілейнага X Падляшска-Палескага фестывалю традыцыйнай культуры «Там по маёвуй росі» Музей малой айчыны ў Студзіводах, які з'яўляецца арганізатарам мерапрыемства, засяродзіўся на адраджэнні валачобнага абраду. Удзельнікі фестывалю многа энергіі ўклалі таксама ў Юр'еўскі абрад на полі, спявалі агулькі і іншыя народныя песні, выступілі перад вяскоўцамі з народнымі танцамі.**



Юр'еўскі абрад адбываўся ў Студзіводах на полі сям'і Фіёнікаў (у першым радзе справа Анна Фіёнік, Тамаш Суліма, Дарафей Фіёнік і яго сын Максім)





Фёдар Асташэўскі са Студзіводаў дастойна прыняў гасцей з Беларусі і абмяняўся валачобнымі яйкамі

Валачобны абрад не захаваўся ў памяці нават найстарэйшых людзей. Старшыня музейнага аб'яднання са Студзіводаў Дарафей Фіёнік лічыць патрэбным аднаўленне абраду валачобнікаў, які яшчэ захаваўся ў некаторых рэгіёнах Беларусі. Пра гэта гаварыў ён на другі дзень Уваскрэсення Гасподняга, калі гасцяваў у сваёй хаце замежных спевакоў і танцораў з Фальклорнага маладзёжнага калектыву «Дараносіца» і з Народнага тэатра гумару, гульні і песні «Хмелеўскія валацугі» з Хмелева Жабінкаўскага раёна:

— У нас, на Падляшшы, валачобны абрад не захаваўся. За малымі выключэннямі не памятаюць яго нават нашыя найстарэйшыя людзі. Захаваліся запіскі, што перад бежанствам гэты абрад спраўлялі ў Старым Корніне, але старыя ўжо не памяталі, каб валачобнікі хадзілі там пасля вяртання з бежанства. Затое ў Ласінцы валачобнікі хадзілі нават у шасцідзесятых гадах мінулага стагоддзя. Вядома, што валачобнікі спявалі царкоўныя творы, прымеркаваныя да Вялікадня. Аднак невядома, якія народныя песні выконвалі ў нас валачобнікі ў далёкім мінулым, наведваючы сваіх аднавяскоўцаў, — сказаў перад гасцямі з Беларусі Дарафей Фіёнік.

Гаспадар музея абдараваў гасцей валачобнымі яечкамі і святочным нумарам нашага тыднёвіка «Ніва», з іконай Уваскрэсення Гасподняга на першай старонцы і праграмай маёвай часткі фестывалю на перадапошняй.

— Валачобнікі хадзілі і яшчэ зараз ходзяць на маёй бацькаўшчыне ў Мілавідах Баранавіцкага раёна, дзе жывуць мае сваякі. На Вялікдзень людзі там спачатку гасцююць у крузе сваёй сям'і, а пасля прыкрываюць яду ручніком, бо няма часу мыць пасудзіну, і ідуць да далейшых сямейнікаў. Дома застаюцца толькі старэнькія асобы. У сваякоў таксама запрашаюць іх за стол, дораць сабе яйкі і расказваюць сямейныя навіны. Калі людзі вяртаюцца дамоў, прыходзяць да іх іншыя госці, — патлумачыла Таццяна Некрашэвіч, супрацоўнік паломніцкай службы Свята-Елізавецінскага манастыра ў Мінску.

Таццяна Некрашэвіч ужо чарговы раз прыехала на Студзіводскі фестываль разам са спевакамі з Хмелева. Пасля святочнага абеду і кароткага адпачынку госці з двух калектываў з Хмелева, частка спевакоў з Калектыву студыі фальклору «Жэмэрва», мясцовыя жыхары і прыезджыя, зацікаўленыя народным фальклорам, пайшлі валачобным карагодам па Студзіводах. Найбольш часу валачобны карагод правёў на пляцоўцы засеянай травой, побач панадворка Фёдара Асташэўскага, дзевяностагадовага мужчыны, які *змахваў* на многа малодшага чалавека. Калі ён падышоў да сваёй фортачкі, голасна заўважылі гэта жанчыны з Хмелева і абрадавалі гэтым спадара Фёдара. «Дараносіца» і «Хмелеўскія валацугі» падрыхтавалі спецыяльную фальклорную валачобную праграму, з якой на першы дзень Вялікадня выступілі ў Хмелеве. Яе складалі валачобныя песні і прымаўкі, якія яны выкарысталі на Падляшшы. Пасля дыялогу з гаспадаром, жанчыны з Беларусі запрапанавалі качаць яйкі на адлегласць, што добра таксама атрымалася спадару Фёдару. Падарыў ён валачобнікам шакаладныя яйкі, якія дачка Дарафея, Таіса Фіёнік, раздавала ўдзельнікам карагода і журналістам прэсы, радыё і тэлебачання, якія прыбылі ў Студзіводы. Пазней валачобныя карагоды прайшлі па Грабаўцы і Стрыках Бельскай гміны. У шэсці прынялі ўдзел таксама мясцовыя жыхары, якіх найбольш сабралася ў Стрыках. Яшчэ перад выездам са Студзіводаў удзельнікі фестывалю пайшлі абыходзіць жыта.

— Асаблівае задавальненне выклікае актыўнасць дзетак і моладзі ў час нашага фестывалю. Яны ж сёння ўдзельнічаюць у валачобным карагодзе, спяваюць, танцуюць, а пасля будуць на полі качацца па жыце, — заявіў Тамаш Суліма са Студзіводскага музея, які ў час шэсця валачобнікаў, а пасля ў час абыходу поля ішоў у першым радзе, разам з Дарафеем Фіёнікам і яго сястрой Аннай — кіраўніком калектыву «Жэмэрва».

— Ідучы на поле мы молімся святому Георгію (Юр'ю) Пераможцу, нясем яго ікону, упрыгожаную народным ручніком. Не забываем пра каравай, а шкарлупінкі ад асвечаных яек мы закопваем у чатырох кутках поля, — удакладніла Анна Фіёнік, якая ў карзіне несла на поле харчаванне на пазнейшы пачастунак.

Аднак усё апісанае мною распачалося з літургіі і малітваў у царкве Пакрова Божай Маці ў Бельску-Падляшскім. Там госці з Беларусі і мясцовыя свае прашэнні накіравалі таксама да святога велікамучаніка Юр'я Пераможцы — патрона землеробаў і жывёлаводаў, якія здаўна былі носьбітамі нашага фальклору. Святкаванне ў гонар св. Юр'я супала ў гэтым годзе з Вялікаднем і таму маёвая частка фестывалю была сёлета асаблівa ўрачыстай. Царкоўныя творы з нагоды святкавання Уваскрэсення Гасподняга і ў гонар велікамучаніка Юр'я Пераможцы спявалі асобы, якія тройчы абышлі поле сям'і Фіёнікаў з жытам у Студзіводах, якое акраплялася асвячонай вадой. Некаторыя хацелі сысці з поля ўжо пасля першага абыходу збожжа, але Дарафей Фіёнік патлумачыў, што згодна з нашай традыцыяй поле трэба абыходзіць тры разы і гэта мабілізавала таксама некаторых са стоячых збоку жыхароў Студзіводаў, каб прайшліся па жыце, нават патаптаўшы яго крыху. Альжбета Фіёнік, кіраўнік тэатральнага калектыву «Антракт» з Бельскага дома культуры ўдакладніла, што ў Юр'еўскім абрадзе апрача спявання царкоўных твораў, малітваў, асаблівае значэнне маюць акрапленне асвячонай вадой поля, каравай і асвячоныя рэшткі з велікоднага стала.

— Велікодныя асвячоныя рэшткі, шкарлупінкі і косці ад мяса нельга выкідваць са смеццем. Іх трэба спальваць. Землеробы з даўніх часоў закопвалі іх на полі, асвячоным у час Юр'еўскага абраду, што мела ахоўваць збожжа ад прыродных стыхій. Разам з пасеяным на полі збожжам каравай ствараў закрыты круг. Са збожжа вымалочвалі зярняты, якія пасля малолі на муку і з яе пяклі хлеб і каравай. Качанне каравая па полі давала стымул да добрага росту збожжа і добрага ўраджаю. Нашыя продкі здаўна качалі каравай па полі і прыраўноўвалі да яго жыта з прымаўкай: «Калі жыта большае, чым каравай, будзе добры ўраджай», — патлумачыла Альжбета Фіёнік.

Удзельнікі народнага абраду раўнялі каравай да жыта, якое ў гэтым годзе з-за працяглай зімы пачало пазней расці. Нават Дарафей Фіёнік заявіў, што частка яго *выпрыла*, лежачы пад снегам. Па жыце качаліся Дарафей са сваёй дачушкай Таісай і перш за ўсё маладыя дзяўчаты з хмелеўскай «Дараносіц». Сабраныя на полі спажывалі каравай, яйкі, каўбасу і іншае святочнае харчаванне.

— У нас таксама каравай качалі па полі і будзілі жыта да росту. Але ў нас захавалася больш абрадаў, спалучаных з першым выганам жывёлы на пашу, што рабілася ў час Юр'еўскага святкавання. На святога Юр'я асвячонай вадой, з дапамогай асвячоных зёлак, акраплялі хлеў і жывёлу, якую пасля выганялі ў гэты дзень з дапамогай вербачак на луг, — сталі расказваць Наталля Дырман і Таццяна Грыцук, кіраўнікі фальклорных беларускіх калектываў. — Зараз у Хмелеве засталося жыць мала людзей, але яшчэ чалавек 350 можна было б налічыць. Людзі зараз мала трымаюцца народных абрадаў, але ходзяць маліцца ў Свята-Праабражэнскую пустынь, дзе служыць айцец Серафім, да якога і з вашых мясцовасцей прыязджаюць паломнікі. Царква ў нас ніколі не закрывалася, зараз дзейнічае нядзельная школа, таму і людзі трымаюцца праваслаўнага веравызнання.

— Праваслаўнае веравызнанне па ўсёй Беларусі найлепш трымаецца менавіта ў Брэсцкай епархіі, бо ва ўсходняй частцы рэспублікі цэрквы разбураліся яшчэ ў даваенны час. Зараз штораз больш людзей пачынае хадзіць маліцца ў праваслаўныя храмы. Там, дзе яны былі разбураны, адбудоўваюцца новыя, або святары прыязджаюць і служаць малебны, — заявіла Таццяна Некрашэвіч з паломніцкай службы Свята-Елізавецінскага манастыра ў Мінску.

На трэці дзень Вялікадня Юр'еўскі абрад багата быў прадстаўлены на полі вёскі Малінnікі Арлянскай гміны, дзе побач студзіводскіх удзельнікаў святкавання выступілі таксама «Малінкі» з Малінік ды бельскія дзеткі і моладзь. Пасля вялікая кампанія спявала ў Малінніках агулькі і танцавала пад народныя песні.

— Я Юр'еўскаму абраду вучылася ў свайго бацькі, якога дома называлі Юрыем. У час святкавання ў гонар Юр'я Пераможцы хадзілі мы сям'ёй на поле і захоўвалі традыцыю, якая цяпер працягваецца, — заявіла Юлія Фіёнік, маці Дарафея, якая перадала любоў да народнага свайму сыну, а той вучыць даўнім абрадам многіх маладых, таксама з выкарыстаннем сродкаў масавай інфармацыі.

У час святочнага велікоднага тыдня ўдзельнікі студзіводскага фестывалю мелі яшчэ выступіць з веснавымі песнямі і народнымі беларускімі танцамі ў музеі «Бацькаўшчына» ў Рыбалах, які вядуць матушка Антаніна Троц-Сасна і айцец Рыгор Сасна, у Канюках, Пухлах, Скарышэве і ў Тыневічах-Вяліках.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Памяці Георгія Валкавыцкага

Сапраўды няшчасна для нас, беларусаў Беласточчыны, пачаўся 2013 год. На пачатку года памерла Алена Анішэўская. Я вельмі яе паважаў за сціпласць і тое, што яна многа дапамагала жыхарам Варшавы. Пасля трагічна загінуў гродзенскі паэт Юры Гумянюк. Пасля памёр Сакрат Яновіч. А тут чытаю ў „Ніве", што памёр Георгій Валкавыцкі. Я спадара Георгія вельмі паважаў. Гэта дзякуючы яму маем „Ніву", якой ён быў пачынальнікам. Гэта дзякуючы спадару Георгію нашая беларуская меншасць пачала моцна фармавацца ды развівацца. Пра гэтае сам спадар Георгій пісаў у цудоўнай кнізе „Віры". Гэтую кнігу я прапаную пачытаць усім маладым беларусам, што ўглядаюцца ў чужых літаратараў, а забываюць людзей-пачынальнікаў нацыянальнага руху нашай меншасці, дзякуючы якім мы зараз існуем. Кнігу чытаецца вельмі лёгка. Гэта жывая дакументацыя пасляваенных гадоў узлёту беларускай меншасці. Гэта дзякуючы спадару Георгію заснавала Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа". Спадар Георгій быў таксама адным з заснальнікаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Пра гэтыя цяжкія ды нялёгкія гады рэдактар Валкавыцкі піша ў „Вірах". Гэта дзякуючы спадару Валкавыцкаму „Ніва" была мегапапулярнай газетай на цэлай Беласточчыне. Цяжка паверыць, што зусім нядаўна цяперашні галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Вапа ўзяў інтэрв'ю ў спадара Георгія, а зараз са смуткам чытаю пра смерць гэтага цудоўнага чалавека. Я меў такое шчасце, што асабіста ведаў спадара Георгія. Часта мы разам з ім размаўлялі. Мяне, як маладога тады смаркатага студэнта, уражвала сціпласць спадара Георгія. Калі я з павагай хваліў, што спадар Георгій быў пачынальнікам і „Нівы", і „Белавежы", то спадар Георгій махаў рукой і гаварыў „Ай, там". Спадар Георгій вельмі любіў расказваць пра гэты час. А сапраўды меў ён вельмі складанае жыццё. Яго маладосць выпала на ваенныя гады, якія апісаў у кнізе „У каменным крузе". Гэта сапраўды быў вельмі вартасны чалавек, які, як некаторыя „белавежцы", не чакаў юбілеяў, пахвал і г.д. Георгій Валкавыцкі — бацька нашага беларускага грамадска-літаратурнага жыцця на Беласточчыне. Дарэчы, свайго часу я сустракаўся з дзяўчынай, якая вучыла ўнукаў Георгія і Веры Валкавыцкіх англійскай мове. Яна паўтарала, што сям'я Валкавыцкіх з вялікай пашанай ставілася да яе. Спадар Георгій заўжды шанаваў маладое пакаленне беларусаў. Гэта дзякуючы спадару Валкавыцкаму дэбютавала многа будучых „белавежцаў". Гэта ён вышукваў літаратурныя таленты, ездзячы па ўсёй Беласточчыне. Я сапраўды з вялікай павагай ставіўся да таго, што стварыў спадар Георгій, а стварыў ён многа. Ён сфармаваў нас як паэтаў, літаратараў, журналістаў ці беларускіх дзеячаў. Выказваю глыбокія словы спачування жонцы спадара Георгія — пані Веры ды ўсёй сям'і Георгія Валкавыцкага. Хай Вам, спадар Георгій, зямля будзе пухам!

**З павагай**
**Юрка БУЙНЮК**



# Таму, што трэба памятаць

**Сёлетняе святкаванне 68-годдзя заканчэння Другой сусветнай вайны і перамогі над фашызмам адбылося 9 мая на гарадскіх могілках у Беластоку ў сціплым асвятленні. Памінальную малітву адмовілі толькі каталіцкія і праваслаўныя святары, а не — як гэта бывала — і пратэстанцкія ды мусульманскія духоўныя. Не хапіла і ветэранаў, якія на папярэдніх ўрачыстасці прыязджалі з Беларусі. Няшмат было і мясцовых. Вянкі да мемарыяльнай дошкі ахвярам паднеслі, між іншым, форменныя прадстаўнікі беларускіх памежнікаў, дэлегацыя ўлад Беластока з віцэ-прэзідэнтам Аляксандрам Сасной і кіраўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

У групе пажылых жанчын, якія кожны год з'яўляюцца на святкаванне Дня Перамогі, была таксама пані Марыя, якая жыве ў Беластоку, родам з Каралёвага Стойла, што побач Гарадка:

— Я і мае сяброўкі прыходзім сюды кожны год, каб адсвяткаваць вызваленне Беластока Савецкай Арміяй. Адчуваем такі абавязак. У большасці на гэтых могілках знайшлі спачын невядомыя салдаты, якія пралівалі кроў за нашую польскую зямлю. Не дзейнічаю ў нейкай ветэранскай арганізацыі, а проста так, дабрачынна. Я стараюся дапамагчы і жывым, і мёртвым, таму што трэба памятаць аб тых, хто дапамагаў нам, асабліва тых, дзякуючы каму мы жывем.

Усхваляваная расказвала «Ніве»:

— Мне было каля трох гадоў, але я да сёння не магу забыць, як пад Гарадком за сеткай сядзелі савецкія палонныя. Мая светлай памяці бабуля звязала ў хустку хлеб і сала, і я, трохгадовая дзяўчынка, перакідала гэты клунак праз сетку. Палонныя крычалі «Добейте, добейте!» А наўкола быў жар і ўсюды мухі.

Ужо ў трэці раз на святкаванне Дня Перамогі прыбыў на беластоцкія могілкі, элегантна прыбраны, з букетам кветак у руках, Рышард Кулеша з Завад, па прафесіі земляроб:

— Я быў у Мінску 10 красавіка 2011 года, за дзень да выбуху на метро. Вярнуўшыся дадому, я даведаўся, што там адбылося. А я ездзіў на гэтай лініі метро. Я напісаў словы спачування беларускаму народу на рукі прэзідэнта Лукашэнкі. Пры нагодзе я спытаўся, дзе ў Беластоку магу ўскласці кветкі ў памяць аб ахвярах гэтай трагедыі, таму што ў мяне далёка ў Мінск. Не прайшлі тры тыдні, як з Генконсульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку прыйшоў да мяне ліст, у якім паведамлялася, што за іх памяць я магу памаліцца тут, на гэтых могілках. Тады запрасілі мяне і на святкаванне 9 Мая. І так я прыязджаю сюды ўжо трэці год, маючы на ўвазе не толькі ахвяры вайны, але і тадышнюю трагедыю ў мінскім метро.

Яшчэ да асноўнай часткі цырымоніі некаторыя з прыбылых ставілі свечкі на магілах загінуўшых. Некалькі з іх запалілі Ян Сычэўскі і Валянціна Ласкевіч з БГКТ. Побач — як нам сказалі — на выпадкова выбранай брацкай магіле дваццаці пяці невядомых, загінуўшых у 1944 годзе, вызваліцеляў Беластока свой зніч паставілі спадарства Івановы з Варшавы. Яна — географ на пенсіі, ён геолаг, польскі расіянін, у пачатку 1990-х дзеяч варшаўскага аддзела БГКТ, зараз актывіст Расійскага грамадска-культурнага таварыства. Сказалі яны «Ніве»:

— Мы ставім свечку на адной з магіл, таму што ўсім немагчыма. У асноўным гэта былі маладыя людзі і паміралі за нашае вызваленне. Ніхто з іхніх сваякоў не можа ім запаліць свечку. Такі дзень, як сёння, павінен быць ушаноўваны феерверкамі, таму што ёсць свабода, што няма вайны. Але ж, на жаль...

Памінальную малітву паводле праваслаўнага абраду адмовіў айцец маёр Андрэй Якімюк, настаяцель праваслаўнага вайсковага прыхода ў Беластоку. Раней, у інтэрв'ю «Ніве», сказаў ён:

— Аддача свайго жыцця для іншых людзей гэта самая высокая каштоўнасць. Тут пахаваныя аддалі самае дарагое. Яны аддалі сваё жыццё, каб мы цяпер маглі жыць у міры. Калі б яны не ахвяравалі сабою, нас магло б не быць.

Свята традыцыйна арганізуе Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку. Консул Аляксандр Берабеня казаў:

— Мы схіляем калені перад ветэранамі, перад тымі, хто перажыў гэтыя страшныя часы. У Беларусі загінуў кожны трэці грамадзянін. Праз Польшчу два разы прайшла гэтая хваля. Мы гаворым пра салдат-чырвонаармейцаў, якія загінулі ў час вайны. Ды як паняць, якія выпрабаванні вытрымалі тыя дзеці, якія знаходзіліся на гэтай зямлі, у гэты час. Як гэта паняць чалавечым розумам, як матулі шукалі гэтым дзеткам кавалачак хлябца. Мы памятаем, мы ведаем аб гэтым.

Пасля ўскладання вянкоў і букетаў кветак консул адзначыў:

— Словы з песні не выкінеш. Сёння там, у Беларусі і Расіі, і тут, у Польшчы, спяваем песню: «День победы это праздник с сединою на висках, это радость со слезами на глазах».

Традыцыйна госці з нагоды свята былі запрошаны ў консульства на прыём.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Дэзарыентацыя

Даўно збіраўся я паехаць у Беласток ды сяброў у «Ніве» наведаць, але, як у народзе кажуць, Бог поспеху не даў. Заўжды нешта перашкаджала. Пасля Вялікадня сказаў я рэдакцыйным калегам: «У чацвер прыязджаю. Гэта як амінь у пацеры!». Але зноў атрымалася асечка. Чыгунка падвяла! А вось як гэта было...

Сабраўся я на адзіны ранні цягнік на 5:34. Калі пад'язджаў пад чыгуначны вакзал, дык здзівіўся, што рэйкавы аўтобус не падагнаны (заўсёды выстаўлялі яго на першым пероне). Цягнік стаяў на трэцім пероне, але рыхтаваўся да ад'езду ў Седльцы. Падаўся я пад табліцу з раскладам язды на пероне. І ўсё выявілася. Цягнік у Беласток ад'ехаў у 5:09. Вярнуўся я дамоў ды ў інтэрнэт заглянуў. На партале станцыі Беласток на раскладзе прыкмячаю прыпіску: «актуалізацыя 8.12.2012 г.». Значыцца, расклад нядзейсны. Пераглядзеў я ўсе старонкі. Актуальнага раскладу не знайшоў. Пасля амаль паўгадзіннай галаваломкі заглянуў у рубрыку «рэгіянальныя перавозы». Там чорна па белым запісана: Прыезд з Чаромхі: 7:19 — штодзень, а ў святочныя дні дадаткова а 17:53 — курсіруюць ад 9.06.-14.12.2013 г. Ад'езд у Чаромху: 7:30 — па суботах ад 15.06.-14.12.2013г., 15:40 — штодзень. Звычайнаму смяротнаму застаецца невядомым, як затым курсіруюць цягнікі на лініі Чаромха — Беласток ад 9 траўня па 9 чэрвеня. І тут справа высвятляецца. У сувязі з будаўнічымі работамі на адрэзку лініі Лявіцкія — Беласток дзейнічае часовы аўтобусны транспарт. Значыцца, што пасажыры ў Лявіцкіх вымушаны перахадзіць на аўтобус. У інтэрнэце аб гэтым ані слова. А такія паметкі ў рубрыцы «ўскладненні» на іншых лініях прапісаны. Праўда, у тым жа раскладзе прыкмячаецца, што з Беластока ў Лявіцкія адпраўляюцца аўтобусы ў 7:25 — ад 11 траўня да 8 чэрвеня, а з Лявіцкіх у Беласток прыбываюць а 7:10 — ад 9 траўня да 8 чэрвеня 2013 г. Такім чынам мне ў чацвер 9 траўня не пашанцавала. Адмянілі курсіраванне цягніка ў Беласток і я чарговы раз падвёў сяброў. Але тут з'яўляецца чарговая дэзарыентацыя. Як сказаў мне сябра з аховы чыгункі, перамена ў раскладзе наступіла з панядзелка, а не з чацвярга як запісана на інтэрнэт-старонцы. Якая затым праўда? І яшчэ адна важная дэталь. У «старым» раскладзе цягнікі з Чаромхі адпраўляліся ў 5:34 штодзень і ў 16:01 у святочныя дні. Зараз адпраўляюцца на мінуту пазней. Ці для такой эканоміі варта перамяняць расклад язды? Па-мойму такія абсурды можна прыкмеціць і на іншых лініях. Але не нам аб гэтым рашаць.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Гайнаўскі цэнтр дапамогі сям'і

У Гайнаўцы па вуліцы Пілсудскага 10 А змяшчаецца Павятовы цэтр дапамогі сям'і. Установа займаецца аказваннем дапамогі і рэабілітацыяй асоб з абмежаванымі магчымасцямі і з'яўляецца службовай адзінкай Павятовага старости. Шматгадовым кіраўніком цэнтра з'яўляецца мгр інж. Павел Шыманюк.

— Якія фінансавыя сродкі прызначае сёлета гайнаўскі самаўрад на дапамогу асобам з абмежаванымі магчымасцямі ў параўнанні з мінулым годам? — пытаю кіраўніка.

— Сёлета магчымасці аказваць фінансавую падтрымку інвалідным асобам — абмежаваныя. Прычына — меншая датацыя з дзяржаўнага фонду рэабілітацыі інвалідаў. Пакарыстаюся статыстыкай. Найбольш сродкаў у гэтым годзе атрымалі мы на прафесіянальную рэабілітацыю асоб з абмежаванымі магчымасцямі. Гэтую задачу рашае Павятовае ведамства працы. Паколькі для гэтай мэты ў мінулым годзе было прызначаных 43 904 зл., дык сёлета атрымалі 80 тыс. зл. (182,2% у параўнанні з мінулым годам). Значную падтрымку атрымалі таксама на дафінансаванне коштаў стварання і дзейнасці майстар-класаў па працатэрапіі. У мінулым годзе атрымалі 443 880 зл., а сёлета — 488 268 зл. (110%). Найменш грошай атрымалі на прыборы і артапедычнае абсталяванне. Калі ў мінулым годзе выкарысталі 404 758 зл., то сёлета атрымалі толькі 175 844 зл. (43,4%). Не лепш справа маецца з дафінансаваннем інвалідаў і іхніх апекуноў у час рэабілітацыйных заездаў — у мінулым годзе было 203 432 зл., сёлета — 90 тыс. зл. (44,2%). На ліквідацыю архітэктурных і тэхнічных бар'ераў было 63 767 зл., сёлета — 30 000 зл. (47,1%). На дафінансаванне спорту, культуры і адпачынку (тычыцца арганізавання мерапрыемстваў з удзелам інвалідаў) — у мінулым годзе 8 646 зл., сёлета — 8 тысяч зл. (92,5%). У агульным падліку ў мінулым годзе выкарысталі 1 196 387 зл. на дапамогу асобам з абмежаванымі магчымасцямі, а сёлета атрымалі адно 872 112 зл. (72,9%), — працягвае суразмоўца.


Павел Шыманюк

— Як лічбова прадстаўляецца выкананне задач за мінулы год, улічваючы індывідуальныя патрэбы асоб з абмежаваннямі? — цікаўлюся.

— У мінулым годзе дапамогай Павятовага цэнтра сям'і пакарысталіся 269 асоб, якія ўдзельнічалі ў рэабілітацыйных заездах. Дзве няўрадавыя арганізацыі наладзілі чатыры мерапрыемствы, у якіх удзельнічалі 104 асобы. Калі справа тычыцца забеспячэння ў прыборы і артапедычнае абсталяванне, дык гэтым апошнім дабрадзействам пакарысталася 9 асоб, а 562 чалавекі атрымалі зварот коштаў закупкі артапедычных прыбораў. Заявы на гэты конт прад'явілі 1148 асоб (на анатамічныя падгузнікі, напрыклад, заявы можна было прад'яўляць некалькі разоў у год). Дапамогай на ліквідаванне архітэктурных бар'ераў пакарысталася 25 чалавек.

— За сродкі дзяржаўнага фонду, якімі распараджаецца наша ўстанова, — працягвае суразмоўца, — да 15 красавіка заявы падалі 153 чалавекі, якія хадайнічаюць аб удзеле ў рэабілітацыйных заездах. Дафінансаванне атрымала 91 асоба (сёлетнія сродкі былі цалкам размеркаваны). За падтрымкай дзеля забеспячэння ў прадметы і рэабілітацыйнае абсталяванне звярнуліся 272 асобы. Дагэтуль станоўчую ацэнку атрымала 249 заяў, апошнія ў рэалізацыі. Назначаныя для рэалізацыі гэтай задачы сродкі, пры такім тэмпе размеркавання, хопяць да злому III-IV кварталаў. Для ліквідавання архітэктурных бар'ераў прад'яўлена 9 заяў. Усе яны зараз у ходзе разгляду.

— Як ужо я гаварыў, — канстатуе спадар Шыманюк, — у гэтым годзе асобы з абмежаванымі магчымасцямі пакарыстаюцца меншымі даплатамі, паколькі і мы атрымалі менш грошай. Дзеля задавальнення спадзяванняў інвалідаў паніжана дафінансаванне да закупкі артапедычных прадметаў і дапаможных сродкаў да 100% ліміту НФЗ. Мяркуем, што ў такі спосаб незалежна ад абмежаваных сродкаў у гэтым годзе, зможам дапамагчы частцы тых інвалідаў, якія прад'явяць заявы, — завяршыў кіраўнік Павятовага цэнтра дапамогі сям'і ў Гайнаўцы Павел Шыманюк.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Маўчаць — абазначае згаджацца

Або не зяртаць увагі. У маёй пісьменніцкай сітуацыі часта здараецца так, што не даводзіцца мне аўтарызаваць сваіх тэкстаў, і яны, на жаль, псуюць тое, што я хацеў бы сказаць. І тады паўстае дылема: папраўляць і нерваваць карэктараў, ці маўчаць. І яшчэ горш тады, калі гэта не справа карэктара ці рэдактара, толькі аўтара, які пра цябе піша і ты нічога не ведаеш. Не заўсёды звяртаю ўвагу і астаецца ды ідзе да чытачоў кампраметуючы мяне тэкст або няпраўда, якая калечыць мяне і тое, аб чым пішу. І я пераважваю.

У 2001 годзе прафесар Аляксандр Баршчэўскі, які з'яўляецца маім прыяцелем, выдаў кніжку пад загалоўкам „Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы 1958-1998". І вось у гэтай кніжцы момантамі я апісаны так як напісаў прафесар, а не так як было і як напісаў я. А гэта абазначае, што ён пісаў з памяці або з дагадкі, але не чытаючы майго. Дам пару прыкладаў такіх памылак.

Зараз на пачатку 1 старонкі, у 16 радку зверху напісана: „Васіль не хадзіў рэгулярна ў даваенную польскую школу, заглядаючы ў яе толькі тады, калі не было дома ніякай работы". Божа, калі ў вёсцы няма ніякай работы?! Але гэта бяда папалам. Бяда ў тым, што я ў даваеннай польскай пачатковай школе і ніякай іншай не быў адзінага дня! І ніжэй трэці радок знізу: „Жыццё ягонае радыкальна памянялася ў 1947 годзе, калі ён быў прызваны на вайсковую службу". Каханы Алесь, у 1947 годзе я ўжо быў пасля унтэр-афіцэрскай школы і як намеснік камандзіра ўзвода ваяваў у Бяшчадах. Пры нагодзе хачу дадаць, што я, грабаўляк пагарджаны Богам і людзьмі маёй праклятай вёскі, унтэр-афіцэрскую школу Унутраных войск закончыў на 21 месцы на агульны лік 97 кадэтаў. І яшчэ толькі 210 старонка, 2-гі радок зверху: „Калі пападаў да яго нейкі абутак, дык былі гэта моцна дзіравыя бацькоўскія боты". Мой бацька хадзіў у хадаках або чосанках з галошамі, а я да 1937 года — у башмаках, пашытых з ануч або ў хадаках з рызіны. Ані башмакі, ані гума мяне не грэлі і не забяспечвалі ад сырасці ці марозу. У 1937 годзе, калі я ад зімы да зімы пасвіў дзедавых і дзядзькавых кароў, ніхто не спытаўся ў мяне, ці мо я хачу есці і ні разу не пераняў пагнаць жывёл на поранак, каб я хаця б раз выспаўся. Ніхто не паклапаціўся, чаму я не хаджу як усе людзі, толькі кульгаючы на пакалечаных нагах, чаму не зарабіў на вопратку ў дзядулі, бабулі (якая была служанкай, а не гаспадыняй) і дзядзькоў з дзядзінамі. На канец маёй пастухоўскай місіі дзядзька Раман паклікаў мяне дахаты і сказаў, што за пасвенне іх кароў (разам з цёлкай і быком было іх шэсць) яны вырашылі мяне „одягнуты і обуты". Дзядзька Трахім пайшоў па драбінцы на гарышча і прынёс адтуль шэры ад пылу з палінялым „пуховым" каўняром лахман па кімсьці з „дэмабілю", бо ж шкода было выкідваць ці анучнікy даць, ды чобаты таксама з „дэмабілю" па кімсьці з сям'і Макацёў. Дзядзька Трахім страсянуў з „пiджака" пыл і з уцехай сказаў: „На, одягны, побачым чы пасуе". Я з роўнай уцехай апрануўся і нацягнуў „чоботы" на босыя без ануч брудныя ногі і гайда дадому пахваліцца бацьку і мачысе шчасцем, якое атрымаў ад дзядзькоў. Тыя вырагаталіся даволі над „дурным Цвэлькам губатым", што цешыцца барахлом. Я сорамна прамаўчаў, бо ведаў, што калі дастану ў мачыхі ануч і буду ездзіць па дровы ў мароз ці малаціць збожжа ў халоднай клуні, то мне будзе цяплей чым у башмаках або хадаках з гумы. І я так фарсіў у паліто і ботах, запрацаваных голадам і крывёю ды слязьмі ў блізкіх мне людзей.

Яшчэ пару слоў каментара. Што б я не напісаў, то і так усяго, нават вельмі крыўднага не пакажу, бо не ўмею. А і так ёсць людзі, якія асуджаюць мяне за нібыта хлусню і пераконваюць іншых у тым, што маюць рацыю. Адзін чалавек, які ўжо ведае, што пойдзе ў рай, вельмі сурова і агідна асудзіў мяне за тое, што я злодзей, бо ў „Пожні" напісаў, што часам ноччу краў у суседзяў агуркі. Было гэта пару разоў і я некалькімі агуркамі нікога не пакрыўдзіў. Дык я яму адпісаў, што я краў агуркі ад голаду. А яму жадаю красці шакалад, але таксама ад голаду. Нічога мне на гэта не адпісаў, але сёння моршчыцца, складае на Сатану, што яго спакусіў абліць мяне гноем з галавы да ног. Што ж, і гэта я мушу мець на працяг кашмарных начэй.

**Васіль ПЕТРУЧУК**

# Дрэнная дарога

Калі ехаць ваяводскай дарогай № 687 з Беластока ў Гайнаўку цераз Жэдню, Міхалова, Юшкаў Груд і Бандары, аўтобус ПКС увесь час калоціцца, дрыжыць ды падскоквае, а шыбы ў вокнах лапацяць. Усё з-за няроўнага ўхабістага асфальтавага палатна ад Жэдні. На адрэзку гэтай дарогі ад Вілаў да Жэдні яе адрамантавалі ў 2011 годзе і тут яна роўная як верх стала. На гэта пайшлі грошы з ваяводскай касы ды бюджэту Міхалоўскай гміны. З ініцыятывай выступіў бурмістр Міхалова. Далей па шляху ў Міхалова і ў напрамку Юшкавага Груда мастаўой не рамантуюць шмат гадоў. Яна няроўная ды вузкая і таму небяспечная.

Шэсць гадоў радныя Нараўчанскай гміны дамагаюцца рамонту адрэзка дарогі з Бандароў у Нараўку і Навасады. Дык адрамантавалі яе каля Смольніцы — два кіламетры ды ад скрыжавання з гравейкай у Новіны да скрыжавання з гравейкай у Лешукі — будзе гэта 2-3 км. І як дагэтуль усё. Рамонт асабліва неабходны перад Новым Ляўковам і ад гэтай вёскі ў напрамку Плянты. Ёсць абяцанні дырэктара Падляшскага праўлення ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку, але няма ніякага зруху ў гэтай справе.

Ехаў я ваяводскімі дарогамі з Беластока ў заходнім напрамку ды там маставыя роўныя і шырокія. А вось ваяводская артэрыя з нумарам 687 ва ўсходнім напрамку — занядбаная. Тут ясна, што ППВД у Беластоку скупіцца аднавіць гэтую дарогу. У Плянце ППВД паставіла дарожны асцерагальны знак і ён стаіць тут нязменна восьмы год!

# Кветкі ўпрыгожваюць гарады

Як толькі прыйшла вясна, у Беластоку пачалі садзіць кветкі. У агародзе палаца Браніцкіх пасадзілі цюльпаны, нарцысы, гіяцынты, першацвет, касачы і незабудкі. У парку Плянты зрок цешаць браткі жоўтага, блакітнага і бардовага колераў. Браткі цвітуць на скверыку Арміі Краёвай і на двух скрыжаваннях з кругавой развязкай у Дайлідах. На скверыку пры вуліцы св. Мікалая і Мальмеда будуць пасаджаны шафраны. Горад традыцыйна ўпрыгожваюць кветкі ў кветніцах пры вуліцах Сянкевіча, Суражскай, Легіяновай, Кілінскага ды Пенкнай. На ліхтарах вулічнага асвятлення традыцыйна красуюцца белыя і ружовыя петуніі. Летам зацвіце яшчэ больш кветак — ужо летніх.

У Гайнаўцы пасадзілі браткі, аксаміткі і бягоніі на гарадскіх клумбах у скверыку перад гарадской управай ды на скрыжаванні вуліц з кругавым рухам Яна Паўла II (вуліцы 3 Мая, кс. Верабея і Варшаўская) ды на скрыжаванні вуліц С. Баторыя, а. А. Дзевятоўскага і Спартыўнай, а таксама ў вазонах-кветніцах па вуліцы 3 Мая. Я памятаю, што ў сямідзесятыя гады XX стагоддзя кветак было яшчэ больш.

# Лавачкі

Прыйшла вясна і больш людзей выходзіць на вуліцу або ў парк. Старэйшыя, калі стомяцца, разглядаюцца, каб дзе прысесці на лавачцы. У Гайнаўцы гарадскія ўлады задбалі пра новыя лавачкі. Усе яны прыгожыя і трывалыя. Найбольш іх у гарадскім парку ў раёне вуліц Паркавай, Белавежскай і Арміі Краёвай, на скверыку перад Гарадской управай, а таксама па вуліцах 3 Мая, Ю. Пілсудскага, С. Баторыя і кс. І. Верабея. На лавачках можна прысесці там-сям па вуліцы Ліпавай і Дварцовай.

Лавачкі патрэбныя. У горадзе жыве многа старэйшых людзей. Яны і шукаюць лавачак. На іх, бывае ж, можна паставіць цяжкі ручны багаж, а не трымаць яго ўвесь час у руках. Пасля дажджу мокра і як тады паставіць багаж на тратуар ці пясчаную дарожку?

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі

# Смачныя ўрокі









Злева: Іаанна Марко — першая настаўніца беларускай мовы ў Бабіках, Уля Шубзда, Таццяна Андрацкая — настаўніца беларускай мовы, Эва Скурская — дырэктар школы

Напрыканцы школьнага года дзеці і настаўнікі з Бабікаў паедуць на экскурсію ў Беларусь. У дарогу запрасіліся таксама выпускнікі, якія зараз вучацца ў гімназіі ў Шудзялаве. У планах — экскурсія па Гродзеншчыне. Там у многіх дзяцей сваякі, бабулі. Многа добрых успамінаў пакінула таксама першае падарожжа па мясцінах Адама Міцкевіча. Школа названая імем аўтара „Пана Тадэвуша". Партрэт класіка аздабляе школьны калідор. Тут жа этнаграфічны куточак з кроснамі і ткацкімі прыладамі. Цікава паглядзець насценную галерэю з ганаровымі граматамі пра дасягненні школы. Вялікую частку састаўляюць поспехі ў беларускіх конкурсах.

— У гэтым годзе да „Роднага слова" прыступіла аж 18 вучняў, — кажа настаўніца беларускай мовы Таццяна Андрацкая. — А Вераніка Рукша і Артур Лапата паехалі на цэнтральны этап у Бельск.

Што з гэтага атрымалася?

— Артур пад уплывам аднаго здарэння пачаў жыва цікавіцца, старацца, каб як найхутчэй вывучыць мову, — кажа настаўніца.

А што гэта за здарэнне?

— У час паездкі ён даваў інтэрв'ю ў „Зорку" і яму стала сорамна, што яшчэ не ўмее складна звязаць словы, свабодна выказаць свае думкі. Вось, рашыў падцягнуцца.

З Артурам і яго сябрамі сустрэліся мы, каб пагаварыць пра „Зорку" і пагуляць у беларускія конкурсы і загадкі. Дзеці сказалі нам многа вершыкаў, у тым ліку „Ветлівыя словы". Урокі беларускай мовы тут не толькі цікавыя, але і смачныя. Пані Таццяна кожны раз рыхтуе сваім навучэнцам вафлі, пірожныя трубкі з крэмам, сырнікі „на халодна" і іншыя далікатэсы. Саладкі стол рыхтуюць таксама на школьнае свята „Дзень сям'і". Усе 26 навучэнцаў беларускай мовы падрыхтуюць мастацкую частку. Яны выступяць з вершыкамі ад конкурсу„Роднае слова" і паставяць спектакль пад загалоўкам „Добра ўсім, калі згода".

— І вы абавязкова да нас прыязджайце, — запрасіла нас на канец пані Эва Скурская, дырэктар школы. — Рады будзем вас сустракаць.

ЗОРКА

# Загадка № (20)

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку" да 30 мая, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*Да яліны, да сасны*
*доктар прыляцеў лясны.*
*Палячыў сасну, яліну*
*і высокі бор пакінуў,*
*паляцеў у той лясок,*
*дзе бярозавы піў сок.*

Васіль Жуковіч

Адказ на загадку № 16-13: Бусел. Узнагароды — каляровыя алоўкі — выйгралі **Караліна Кадлубоўская** з Орлі і **Каміля Навіцкая** з Арэшкава.

Паўліна БАНАСЮК, Нараўка

# Падарожжа

*Забыўся Грэсь пра вёску*
*Ён панам цяпер стаў*

*З-за вугла выглядае мяці*
*Хлапец зусім не пазнаў*

*Трахіма-сябра з дзіцячых гадоў*
*Грэсь таксама далёка абышоў*

*Чаго ж прыехаў, калі*
*Забыць юначыя прыдумаў гады*

*Ён цяпер панам зрабіўся*
*І мовы мужыцкай забыўся*

*Прыехаў на тое, каб паказаць*
*Як чалавеку нямым хутка стаць!*

*Уладзімір Ліпскі*

# ЧЫРВОНАЯ КНІГА

*(працяг з 19 н-ра)*

Гуканку вельмі ўпадабаў чорцік Дуронік. Ён паддаваў азарту не толькі свайму Андрэйку, а ўсяму класу.

Хвілінка-весялінка прайшла. Барвінак прадоўжыў чырвоную казку:

— На лузе тым жылі прыгожыя матылі — чорны апалон, махаон, адмірал. На старым дубе сядзеў жук-алень. Вясёлы сонечны зайчык трапятаўся на яго чорнаматавым целе. Рогі вялікія, як у сапраўднага аленя.

Раптам з вады паказалася вялікая галава з маленькімі вачамі і доўгімі вусамі. Звяры спалохана падхапіліся, а «галава» кажа: «Не бойцеся, я — азёрны Сом. Мае браты водзяцца і ў рэках. Мялеюць рэкі, няўтульна становіцца ў іх. Вось і мы трапілі ў Чырвоную кнігу».

«А яшчэ якіх рыб ахоўвае чалавек?» — спытаў Зубр.

Сом пакруціў вусамі, падумаў і адказаў:

«Прыгажуню сцерлядзь, якая водзіцца ў Дняпры, Прыпяці, Сожы, Бярэзіне. А яшчэ ручаёвую стронгу з Нёмана, еўрапейскую рапушку з Заходняй Дзвіны, звычайнага харыуса з Віліі, рыбца з Заходняга Буга...»

«Слухай, Сом, — папрасіў Буры Мядзведзь, — на вадзе твайго возера растуць гарлачыкі, белыя і жоўтыя. Падплывы, нарві букет, мы падорым добрым людзям, якія беражліва ахоўваюць нас».

«Не магу выканаць тваю просьбу».

«Чаму?» — здзівіўся нават Барсук-усёвед.

«Таму што і гарлачыкі занесены ў Чырвоную кнігу», — Сом на развітанне шумна пляснуў хвастом па вадзе.

Задумаліся звяры. Мо і сярод тых раслін, якія яны ядуць, па якіх ходзяць, ёсць рэдкія? Іх жа берагчы трэба!..

Задумліва сядзелі дзеці ў класе, хаця Барвінак і закончыў сваю казку.

# Вершы Віктара Шведа

## Спявае Янку калыханкі

Ляжыць у ложку Янка
Ужо ўсе заснулі.
Яму калыханку
Спявае бабуля.

— Спявай, дарагая,
У сваім пакоі.
Я ўжо засынаю,
Трэба мне спакою.

## Ацэнка бацькі

Бацька пытае сынка Андрэя:
— Што ты з мовы
англійскай умееш?
— Вывучыць мову
— маім абавязкам.
Ведаю ўжо: добры дзень,
калі ласка.

— Ты на пачатку сваёй дарогі
Ужо, сыночак, ведаеш многа.
Табе ж чужыя гэтыя словы
І ў беларускай роднай мове.

# Музыка з кайфам

## Тарасевіч/ Тарасэвіч



*Таццяна Лойша і Ілля Сільчукоў — менскія артысты, якія ў час Фестывалю імя Яна Тарасевіча выконвалі песні кампазітара*

Прозвішчы падобныя, але за імі стаяць зусім розныя біяграфіі. Аднак абодва прозвішчы павінны кожнаму беларусу, жыхару Польшчы і Беларусі, быць вядомымі.

Хаця *Ян Тарасевіч* нарадзіўся яшчэ ў XIX стагоддзі, яго вучні яшчэ працуюць і перадаюць добрую энергію, якой дзяліўся з імі *Ян Тарасевіч* — кампазітар, піяніст, педагог. *Лявон Тарасэвіч* затое чалавек пераломных XX і XXI стагоддзяў, творча дасталеў пад уплывам старэйшага пакалення, але безумоўна яго жывапіс мае дачыненне да форм перформансу бягучага стагоддзя. Першы з іх свет маляваў гукамі, другі фарбамі. Згодна *Тарасевічы* і *Тарасэвіч* напросту выхавалі шмат паслядоўнікаў і людзей мастацтва. Пэўна таму, што мастацтва — змест іх жыцця. Гэта выбар, які трэба зрабіць самому, але і колькасць таленту, з якім нараджаемся, мае на гэта ўплыў. У сваіх гісторыях з дзяцінства *Лёнік Тарасэвіч* успамінае, як скрыта займаўся рысункамі, хаця бацькі гэтым не вельмі былі задаволены. *Тарасевіч* затое ўжо ва ўзросце 10 гадоў, пры падтрымцы сям'і, выконваў складаныя творы Шапэна ці Ліста. Пачаткі зусім розныя, але і фіналы такія ж. Прафесар *Тарасевіч*, кампазітар, пасля Другой сусветнай вайны пераехаў жыць у Беласток. Хаця паважалі яго як педагога, жыў вельмі сціпла, калі не бедна, але не скардзіўся. Пасля яго смерці шмат гадоў ніхто не ўспамінаў яго здабыткі, ні яго імя.

Па-другому, калі гавараць пра прафесара *Тарасэвіча*. Ягоныя працы прадаюцца за вялікія грошы, а гэта наогул у свеце мастацтва вызначае пазіцыю. Запрашаюць *Тарасэвіча* рыхтаваць выставы, запрашаюць праектаваць унікальныя знакі, афішы, лічаць адным з выдатнейшых сучасных мастакоў. У апошніх днях абодва прафесары сталі героямі мастацкіх падзей. *Лёнік* — адкрыў выстаўку ў Бельску-Бялай, *Ян* — стаў героем новага фестывалю ў Беластоку, фестывалю яго імя. Можа калісьці ў рамках фестывалю давядзецца менавіта сустрэць мастацтва гэтых беларускіх прафесараў з Беласточчыны?

**i_basovka@o2.pl**

**Ад рэдакцыі:** Яна Тарасевіча прафесарам называлі яго вучні з музычнай школы.

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



# Польска-беларуская крыжаванка № 20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 16:

Вясло, гама, сук, замак, май, ля, леў, рацыя, гурт, ды, гара, зяць, ар, трон, таката. Вясна, кот, сок, луг, мера, заўтра, хай, арт, там, маладзік, акацыя, цот, прывязь. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Наталля Васько**, **Іаанна Лукша**, **Патрыцыя Бядрыцкая** з Нараўкі, **Марыюш Красько**, **Наталля Ніканюк**, **Сузана Мішчук**, **Малгажата Галёнка**, **Вольга Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!



Віктар ШВЕД

## Успамін

Ішоў я ў вёску Стары Корнін,
Тут праваслаўнай веры корні.
Вядома, што не помню хвілі,
Калі мяне тут ахрысцілі.

Быў юным, помніцца на шчасце,
Ішоў да споведзі, прычасця.
– Прабачце грэшніку малому, –
Сказаў бацькам, як выйшаў з дому.

Нёс за плячыма свае боты,
Каб не запэцкаць іх балотам.
І пры мастку ў канцы дарогі
У ручайку памыў я ногі.

І з абутковаю абноўкай
Пайшоў у прыходскую царкоўку.
Тут святару прызнацца мусіў,
Што краў суседу ў садзе грушы.

У Велікодныя я святы
З бацькамі сеў за стол багаты,
Ды ўжо з грахоўным аблягчэннем
Стрэнуў Хрыстова ўваскрэсенне.

## Вялікдзень

Я ўжо стары, аднак не хворы,
Таму і еду ў вёску Мора,
Каб у цвінтарнае капліцы
Там шчыра, шчыра памаліцца

За родную сямейку Шведаў,
Якой няма ўжо ў Моры следу,
Якая тут зляжыла косці
Вакол капліцы на пагосце.

Мае бацькі, мой брат, сястрыца,
Няхай жа вам спакойна спіцца,
Няхай Хрыстос па ўваскрэсенні
Аб вашым рупіцца збаўленні.

Дзмітрый ШАТЫЛОВІЧ

## Чаканне

Была вясна, цвілі ўжо агароды,
Бялелі за дамамі ўжо сады,
Яго ўзялі ў час сонечнай пагоды,
Сказалі: на навуку ў гарады.

Ён два пісьмы паспеў прысласць
для маткі,
І ў лета замянілася вясна.
І бомбы паляцелі напачатку,
Бо пачалася грозная вайна.

Баі прабеглі побач па дарогах,
Запанавала ў вёсцы цішыня...
Хацела ўбачыць сына ля парога
Каб мог запрэгчы ён свайго каня.

Аднак аб ім ні слыху і ні дыху
Яна не чула ад яго сяброў,
Загінуў дзесь самотна і паціху,
І не прыслаў да маткі пару слоў.

Ішлі гады і вораг, што калісьці
Ішоў на ўсход, уцёк даўно назад,
А сын прапаў, пачула,
што кудысьці
Яго пагналі, дзесь пад Сталінград.

Аднак яна не траціла надзеі,
Што вернецца дадому ён здалёк,
І прад іконай у царкве ў нядзелю
Прасіла Бога, каб прыйшоў сынок.

І раптам ліст прынеслі нечакана
Ад сына ў хату да яе дзвярэй,
Што сын яе жыве за акіянам,
Там мае ферму, жонку і дзяцей.

# Паўстанцам Крыншчыны

**Кастусь Радзевіч, Ян Тадэвуш дэ Вірыён, Васіль Клусевіч — гэтыя імёны апынуліся ў вечнай хроніцы падзей славутага 1863 года на Крыншчыне. Памяць пра іх перадаецца з пакалення ў пакаленне дзякуючы такім людзям як Цэліна Бах-Шчавінская.**

Спадарыня Цэліна — сапраўдны любіцель мясцовай гісторыі, якая вельмі сур'ёзна ставіцца да сваіх пошукаў. Яе веды абапіраюцца не толькі на шматлікія размовы са сведкамі мінулых дзён, але і на доўгія ночы, праведзеныя на чытанні старых дакументаў, асабіста прывезеных з архіваў Мінска і Гародні. Спадарыня Цэліна распавяла чытачам „Нівы” пра некаторыя з вядомых ёй паўстанчых гісторый роднай Крыншчыны.


Барсуковінскі крыж


Удзельнікі мітынгу перад касцёлам у Падліпках

Свой аповед пачала з самага важнага месца, звязанага з гэтымі падзеямі — надмагільнага крыжа ў маленькай пушчанскай вёсцы Барсуковіна. Менавіта там спачывае Ян Клусевіч, ураджэнец непадалёкага Ліпавага Моста. У час фармавання лясных паўстанчых атрадаў ён стаяў на варце, забяспечваючы падлеглую сабе тэрыторыю. У выніку даносу, а тады многія гэтым займаліся, крынскія вайскоўцы і паліцыя правялі аблаву, расстрэльваючы, між іншым, Клусевіча. Цела паўстанца было выстаўлена напаказ для перасцярогі навакольнага насялення. Усё роўна мясцовыя ноччу зрабілі крыж і пахавалі яго дакладна ў месцы расстрэлу.

Праўдападобна Ян Клусевіч быў братам Васіля Клусевіча з Ліпавага Моста, удзельніка бітвы пад Перацёсамі. У час славутай сутычкі Васіля ранілі ў руку. Нейкім чынам вярнуўся ён дахаты, але ненадоўга. Неўзабаве выдалі яго царскім уладам, тым самым выстаўляючы яго на серыю цяжкіх допытаў і катаванняў. Апошнія гады Васіль правёў пад апекай сваёй пляменніцы, жонкі нейкага Сянкевіча з Барсуковіны. Герой адышоў незаўважаным. Памёр у 1910 годзе ва ўзросце дзевяноста сямі гадоў. Пасля выдачы царом талерантыйнага ўказа Васіль перайшоў з уніяцтва ў каталіцтва і таму яго цела спачывае праўдападобна на каталіцкіх могілках у Шудзялаве.

Студзеньскае паўстанне 1863 года пачалося на Гродзеншчыне ў днях 24-28 красавіка. Тады была праведзена першая мабілізацыя, у асноўным сялян і работнікаў у паўстанчыя лясныя атрады. Ваенны начальнік Гродзеншчыны Ануфры Духінскі, начальнік штаба Валеры Врублеўскі і іншыя паўстанцы, абвясціўшы жыхарам, між іншым, Крынак і Ліпавага Моста Маніфест Нацыянальнага ўрада, хутка з'яднал і сэрцы каля чатырохсот дабравольцаў.

Менавіта таму мясцовыя адзначаюць памяць тамтых дзён у красавіку.

У Крынскай гміне ўжо ад некалькіх гадоў мерапрыемствы, прысвечаныя памяці паўстання, праходзяць ля барсуковінскай магілы Яна Клусевіча. Галоўным арганізатарам святкаванняў з'яўляецца карэнны жыхар Барсуковіны Міраслаў Кішкель. Прапрадзед спадара Міраслава — гаспадар і каваль Юзэф Радэль быў адным з паўстанцаў. У сваёй кузні дваццацігадовы герой тайна каваў косы і шаблі, якія забраў з сабой на першы, самы важны бой пад Перацёсамі. Пасля паражэння Юзэф разам з іншымі паўстанцамі скрываўся ў лясных урочышчах Чырвонае Багна і Чортавая Хата. Хутка папаў у турму, а потым на пятнаццацігадовую ссылку у сібірскую вёску каля Томска. Дахаты вярнуўся у 1878 годзе, дзе правёў апошнія сорак два гады свайго жыцця.

Мясцовае святкаванне 150-й гадавіны выбуху Студзеньскага паўстання, якое прайшло ў канцы красавіка 2013 года, пачалося ўрачыстым набажэнствам у падліпскім касцёле. Удзел у ім прынялі, між іншым, прадстаўнікі пачатковай школы і гімназіі ў Крынках, мясцовыя надлясніцтва і пагранічнікі. Сярод запрошаных апынуўся таксама віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства, ураджэнец непадалёкай Баратыншчыны Мячыслаў Башко. Сваёй прысутнасцю мерапрыемства ўдастоілі беластоцкія гарцэры, якіх прывёз туды іх духоўны пастыр ксёндз Аляксандр Дабронскі. Усе яны адным голасам маліліся і ўспаміналі тых, якія пралілі сваю кроў за свабоду. У касцёле прайшла таксама мультымедыйная тэматычная прэзентацыя, падрыхтаваная крынскімі школьнікамі, падапечнымі настаўніцы Барбары Сідаровіч. З касцёла ўсе падаліся пад славуты барсуковінскі крыж. Далей мерапрыемства працягвалася на панадворку арганізатара мерапрыемства — Міраслава Кішкеля. Тут гасцей чакала, між іншым, цёплая страва, слоўна-музычны мантаж у выкананні вучняў з крынскай школы, спеў жанчын з крынскага калектыву „Экзіт”, гістарычная выстаўка і спартыўныя конкурсы для дзяцей. Віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства належным чынам ацаніў вялікую ахвярнасць арганізатара мерапрыемства, уручаючы яму памятковы гравертон, а яго жонцы — букет веснавых цюльпанаў.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# На невавілонскай грані

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Грань — *угол, часто штука* — так тлумачыць лексікон Паўла Бярынды з 1627 года. У „Этымалагічным слоўніку” Брукнера з 1927 года гэта таксама *róg*, але і *krawędź, granica*. Мясцовасць Граннае распаложана над Бугам, якому выпала не толькі сімвалічная роля граніцы паміж Усходам і Захадам. У першай палове XIX стагоддзя была ў Гранным нават таможня; найперш жа была там граніца між Прусіяй і Аўстрыяй, пасля — між Імперыяй і Каралеўствам.

Дарога з Пэрлеева ў Граннае нічым асаблівым не вылучаецца. Вядзе яна цераз адносна малады лес, які вырас пасля апошняй вайны. Аднак раней была гэта даволі важная дарога. „Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага” з 1880-1914 гадоў падавальныя, што называлася яна Варшаўскім гасцінцам, „a to dla tego, że od samego Brześcia Litewskiego do Grannego i dalej do Warszawy wszyscy przejeżdżali”...

Ездзіў тудою не абы-хто; Слоўнік: „Przez wieś Granne generał rosyjski Suworow z 16000 armią w 1794 r. przechodził idąc na Warszawę i tu maleńka potyczka przy przeprawie przez Bug zaszła. W 1795 roku Stanisław August tędy przejeżdżał do Grodna na sejm i już więcej nie wrócił do Warszawy. W 1812 r. wielu z Francuzów w rejteradzie po trakcie i w samem Grannem z mrozu, głodu i chorób pomarło i zostali pogrzebani na wzgórku przeciwko wsi Dzierzb, o parę wiorst od Grannego za Bugiem. W 1830 r. jenerał Dybicz ze swoim korpusem przeprawiał się przez Bug w Grannem, mostem skleconym naprędce z drzewa rozebranego z budowli przez samych żołnierzy. Zachowuje się podanie pomiędzy ludem na Grannem, że w czasie wojny za dyktatora Tadeusza Kościuszki, Polacy znaczne sumy w złocie, uchodząc przed nieprzyjacielem z kasą, w obawie zabrania jej, zakopali na polach granneńskich, których to skarbów, pomimo poszukiwań, nikt jeszcze dotąd nie odszukał. Przed najściem Szwedów za Jana Kazimierza Granne miało być miastem. Kościół parafialny św. Jana Chrzciciela z jedną wieżyczką, gontami kryty, wybudowany 1784 przez Aleks. hr. Ossolińskiego. Kościół tutejszy został r. 1886 czasowo zamknięty, a r. 1892 rozebrany”.

На вясковай вуліцы спыняюся каля траіх немаладых мужчын і пытаю пра сляды колішняй пераправы цераз Буг, аднак ніхто з іх не ведае, дзе яна была. Адзін з іх успамінае геркаўскі час, калі мясцовыя купілі кавалак ракі — значыць арандавалі для лоўлі рыбы. Мелі яны дазвол стаўляць адну сець, але стаўлялі дзве. Злоўленую рыбу прадавалі ў Цехановец, дзе была смажальня, а нават яшчэ і ў Шэпятова. А колькі за зароблены грошы гарэлкі перапілі! Лоўля скончылася з увядзеннем ваеннага становішча. А цяпер ужо там такая рыба нават не водзіцца, бо не тая вада што даўней, якую можна было проста з ракі піць. А на рынку ў Пэрлееве быў вялікі завоз уселякай жывёлы; цяпер у Пэрлееве таксама па серадах рынак, але страціў ён вясковы характар і вонкавыя прадаўцы прапануюць уселякую лёгкую, у прынцыпе кітайскую, драбязу.

Мой расказчык прыпомніў, што калісь былі каля ракі сляды па слупах ад моста, але дакладна не ўмеў сказаць дзе. Праз той мост хадзілі людзі з супрацьлеглага берага ў мясцовы касцёл. Пра гэты касцёл у Гранным згадваюць апошнія сказы са Слоўніка, які быў складзены ў царскі час і адобраны цэнзурай, таму не згадваецца ў ім чаму ён быў закрыты і знесены...



Касцёл у Следзянаве

Партал Драгічынскай дыяцэзіі: „Wieś Granne została założona w 1453 roku na surowym korzeniu przez Michała (Miszki) Wesztortowicza, łowczego hospodarskiego. Jego żona Katarzyna dnia 7 lutego 1491 roku ufundowała w Grannem pierwszy kościół pw. św. Mikołaja, Wniebowzięcia NMP, św. Jana Chrzciciela oraz św. Stanisława Biskupa i Męczennika. W czasie „potopu szwedzkiego” kościół został obrabowany i uszkodzony w 1657 roku, a w 1674 roku został całkowicie spalony”. У 1684 годзе ў Гранным быў узведзены чарговы касцёл. „W drugiej połowie XVIII wieku kościół ten wymagał gruntownego remontu. Jednak ówczesny dziedzic Aleksander hr. Ossoliński, starosta drohicki, miecznik wielkiego księstwa litewskiego, postanowił ufundować nową świątynię, którą wystawił w 1782 roku. Niestety po dwóch latach w 1784 roku uległa ona spaleniu od uderzenia pioruna. Czwarta świątynia pw. św. Jana Chrzciciela została zbudowana w 1784 roku. W ramach represji za udzielanie posług religijnych prześladowanym unitom zza Buga, w dniu 4 lipca 1886 roku kościół w Grannem został zamknięty i opieczętowany — na rozkaz cara Aleksandra III. Po zerwaniu plomb przez pewnego mężczyznę w dniu 24 czerwca 1891 roku Iwan S. Kachanow, generał-gubernator grodzieński i wileński, w dniu 18 sierpnia 1892 roku wydał nakaz rozbiórki kościoła. Polecenie wykonano przed 26 sierpnia 1892 roku, a wszystkie sprzęty przeniesiono do kościoła perlejewskiego”.

Падумаў бы хто, што царскія ўлады абышліся вельмі жорстка з каталіцкімі вернікамі, забараняючы ім маліцца ў храме, які ўзводзіўся ад іх імя за выпрацаваныя імі сродкі, адно толькі з-за таго, што да іх гарнуліся суседзі, запісаныя ўладамі ў іншы рэлігійны разрад; былі гэта вернікі з ранейшых уніяцкіх прыходаў у Сырочыне, Лазоўку ці Гарадку-на-Бугу, якія ў 1875 годзе былі пераведзены ў праваслаўе. Але ж вядома, што знос „няправільных” храмаў адбываўся і да царскай пары, і пасля. Найбольш хіба вядомы такі выпадак з іерусалімскім храмам, узведзеным яшчэ царом Саламонам у, бадай, 954 годзе да нашай эры. 367 гадоў пазней вавілонскі цар Навухаданосар не толькі разбурыў Саламонаў храм, але і разграбіў яго каштоўнасці. Да таго ж яшчэ выгнаў у бежанства ў Вавілон усё іерусалімскае насельніцтва. Падзея гэтая захавалася не толькі ў біблейскіх кнігах, але і ў музычнай традыцыі; вавілонскай няволі яўрэяў прысвечаны папулярны 136-ы псалом (у некаторых рэдакцыях 137-ы) „На реках Вавилонских тамо седохом и плакахом...” ці аснаваны на ім славуты хор „Va, pensiero” ў оперы „Nabucco” Джузепе Вердзі... У міжваенны час подзвігі цароў Навухаданосара і Аляксандра паўтарылі нашы санацыйныя чыны...

У санацыйны час адны храмы разбураліся, іншыя ўзводзіліся. У Гранным быў узведзены чарговы касцёл, драўляны. Партал: „W czasie II wojny światowej wojska sowieckie zamieniły kościół na wojskową kuchnię i stołówkę, niszcząc ołtarz i ławki”. У 1948 годзе пачалася пабудова цяперашняга мураванага касцёла, якая доўжылася дваццаць пяць гадоў.

У некалькіх кіламетрах ад Граннага знаходзіцца парафіяльная вёска Следзянаў. Слоўнік: „Śledzianów, Wielki i Mały, dwie wsi włościańskie i folwark, powiat bielski guberni grodzieńskiej, w dawnej ziemi drohickiej, o 2 wiorsty od prawego brzegu Bugu. W Śledzianowie Wielkim było 41 dziesięcin ziemi należącej do kościoła, który zamknięty w 1886, został rozebrany w r. 1892”. Даты такія ж, як і ў Гранным... Партал: „Pierwsze pewne wzmianki o istnieniu parafii i kościoła w Śledzianowie pochodzą z drugiej połowy XV w. W 1469 roku mieszkańcy Śledzianowa musieli jeszcze dawać dziesięcinę nowo ufundowanemu kościołowi w Wierzchucy, o plebanie którego wspominają dokumenty już w 1466 roku. Pierwsza pisana wzmianka o istnieniu parafii w Śledzianowie pochodzi z początku XVI wieku. W 1772 roku rozpoczęto budowę murowanego kościoła w Śledzianowie, którą ukończono w latach 1788-1794. Z nakazu samego cara Aleksandra III z dnia 5 czerwca 1886 roku kościół ten został zamknięty w dniu 4 lipca 1886. Oficjalnym powodem likwidacji parafii było udzielanie posług religijnych unitom zza Buga. Parafianie protestowali przeciwko zamknięciu kościoła, a gdy nie uwzględniono ich protestów 24 czerwca 1891 roku zerwali plomby. Po sześciu latach 6 sierpnia 1892 roku kościół został otworzony bez koniecznego zezwolenia i odprawiono nabożeństwo. W odpowiedzi na to Iwan S. Kachanow, generał-gubernator wileński i grodzieński, w dniu 18 sierpnia 1892 roku nakazał zburzenie kościoła. Rozkaz ten został wykonany w dniach 25-26 sierpnia 1892 r. Cegłę ze zburzonego kościoła wywieziono do Grodziska, gdzie została wykorzystana do budowy parkanu wokół nowej cerkwi prawosławnej (1887-1891)”.

Партал згадвае, што раней парафія была ў Вярхучы. І зараз гэта даволі вялікая вёска, нават крама там працуе. Але тавару прапануе нямнога, прадавачка нямнога можа яго заказаць, бо людзі атаварваюцца ў аўтакрамах. Пункт прыёму малака даўно закрыты, а на яго рампе вырасла цалкам прыстойная трохствольная бяроза. Але мінулае ў гэтай вёскі даволі цікавае. Слоўнік: „Pierwotnie należała Wierzchuca do dóbr koronnych i podług podania utrzymywano w nich wierzchowce królewskie (zkąd ma pochodzić nazwa). Rzeczywiście łąki i pastwiska wierzchuckie, słynne z bujnej trawy, nadają się do hodowli stadniny. W XVII w. była w posiadaniu rodziny Hińczów. Podług legendy ludowej jeden z Hińczów, pan na Wierzchucy, Mierzynówce, Bużyskach, Lisowie i Putkuwicach, pędził rozwiązłe życie, za co strafowany był publicznie przez miejscowego plebana. Obrażony oto Hińcz, pałając zemstą do księdza, zabił go z rusznicy w czasie Bożego Ciała. Zebrany lud chciał mordercę rozszarpać na miejscu, ale obecna, szlachta obroniła Hińcza i odprowadziła na zamek drohiczyński, gdzie był sądzony i przez kata na rynku ćwiertowany. Kościół zaś w Wierzchucy podług podania ludu zapadł się w ziemię i do dziś dnia opowiadają starzy ludzie, że rodzice ich słyszeli dzwony pod ziemią, na pagórku gdzie stał dawnemi czasy kościół. Na polach folwarku, tuż przy Bugu, znajduje się kilka starożytnych mogił, podług podania miejscowego Jadźwingów. Na pastwisku nad Bugiem, między Wierzchucą a Bużyskami, przed kilku laty wygrzebali włościanie kilkaset sztuk monet srebrnych z czasów Trajana; wykopalisko to sprzedane zostało żydom na srebro. O 1 wiorstę od tego miejsca, tuż przy brzegu Bugu, odkryto niewielką pieczarę, w której znaleziono koronę wykutą ze srebra, ważącą około 6 funtów. Zabytek ten, wypadkowo ocalony z rąk żydów, którzy nabyli go na stopienie, znajduje się podobno w zbiorach komitetu statystycznego w Grodnie”...

Хто ведае, што гэта за карона, магчыма, што была яна падарункам папы Інакенція IV драгічынскаму каралю Данілу; можа яна дзе і дагэтуль у Гродне. А вось у Вярхучы пачаў я разглядацца за колішнім касцёліскам, але замест яго пабачыў я шэрую бетонную сцяну аднаго з *долговременных огневых точек*, якія мелі трымаць чарговую набужную грань...



Аляксей Пысін выступае ў БГКТ у Беластоку, 1980 г. Сядзяць злева: Мікалай Самоцік, Аляксей Гардзіцкі, Георгій Валкавыцкі

Сяргей ЧЫГРЫН

# Аляксей Пысін і Беласточчына

Жыццё і творчасць беларускага паэта Аляксея Пысіна (1920-1981) былі звязаны з Беласточчынай, хаця сам паэт нарадзіўся і жыў далёка ад Беластоцкай зямлі — на Магілёўшчыне. Беласточчыну ён палюбіў, відаць, тады, калі 19-гадовага юнака ў 1939 годзе накіравалі ў Бельск. А было гэта якраз пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Аляксей Пысін у той час вучыўся на другім курсе Мінскага камуністычнага інстытута журналістыкі. Студэнта Пысіна датэрмінова і накіроўваюць на працу ў бельскую раённую газету на пасаду літсупрацоўніка. Там ён вучыўся пісаць, сустракаўся з беларусамі Бельшчыны, гутарыў пра жыццё, заводзіў першыя знаёмствы. Калі б не вайна, Аляксей Пысін мог застацца на Беласточчыне назаўсёды. Але юнака забралі на фронт. Хутка пачалося адступленне аж да Гомеля, а потым эвакуацыя на Урал, у запасны полк, а далей шляхі вялі на фронт...

Вайну прайшоў сувязістам, двойчы быў паранены. Дамоў Аляксей Пысін дэмабілізаваўся ў 1946 годзе. Але лёс яго больш не закінуў у Бельск, бо Беласточчына ўжо стала польскай тэрыторыяй. Праўда, Аляксей Пысін заўсёды адсочваў падзеі, якія адбываліся на Беласточчыне. У 1965 годзе, калі ў Гарадку пачалі будаваць Дом культуры, дзе было месца і для бібліятэкі, ён напісаў ліст у рэдакцыю „Нівы": „Дарагія сябры! Прашу неяк пераслаць маю кніжку Дому культуры ў Гарадку. Аляксей Пысін. Магілёў, 14 жніўня (1965)" (Георгій Валкавыцкі, *Віры*, Беласток 1991, с. 83). Гэта быў зборнік вершаў Аляксея Пысіна „Мае мерыдыяны".

Рэдакцыя „Нівы", вядома ж, перадала кнігу Дому культуры ў Гарадок. А рэдактар тыднёвіка Георгій Валкавыцкі даслаў у Магілёў Аляксею Пысіну „Ніву", „Беларускі каляндар" і літаратурны альманах „Белавежа". Аляксей Пысін, калі атрымаў бандэроль, вельмі ўзрадаваўся, расхваляваўся. Ён адразу напісаў пісьмо рэдактару „Нівы" Георгію Валкавыцкаму: „Паважаны таварыш Валкавыцкі! Сардэчна ўдзячны за „Ніву", „Беларускі каляндар", „Белавежу" і тое задавальненне, якое атрымліваю ад чытання твораў беластоцкіх журналістаў і пісьменнікаў. У мяне даўняя мара: наведаць Бельск, у гэтым горадзе застала мяне мінулая вайна. На нашым з'ездзе (у красавіку) буду размаўляць на гэту тэму ў Саюзе пісьменнікаў. Дасылаю новыя вершы. Прывітанне ўсім вашым супрацоўнікам. З глыбокай павагай А. Пысін. Магілёў, 13.02.1966 г." (Георгій Валкавыцкі, *Віры*, Беласток 1991, с. 95).

Калі рэдактар атрымаў ліст з Магілёва ад Аляксея Пысіна і яго вершы, ён адразу аддаў іх у друк. А 20 сакавіка 1966 года тыднёвік „Ніва" на першай старонцы друкуе восем новых вершаў паэта. Пазней гэтыя вершы Аляксея Пысіна ўвойдуць у яго кнігу паэзіі „Твае далоні" (1967), за якую ён у 1968 годзе атрымае Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы.

Аляксей Пысін вельмі любіў чытаць беларускі тыднёвік „Ніва". Калі ён яго атрымліваў, то чытаў усё да драбніц. А потым аб прачытаным расказваў іншым магілёўскім літаратарам. Ці часам і ім даваў пачытаць „Ніву". 16 лістапада 1966 года ён піша рэдактару „Нівы" Георгію Валкавыцкаму ліст, у якім просіць аформіць падпіску „Нівы" на 1967 год, а таксама просіць аформіць падпіску і для свайго сябра — магілёўскага пісьменніка-сатырыка Івана Аношкіна. Разам з просьбай Аляксей Васільевіч даслаў свой хатні адрас і адрас Івана Аношкіна. Магчыма, рэдакцыя ім выпісала „Ніву" і яны шмат гадоў яе чыталі. А 23 кастрычніка 1966 года „Ніва" на першай старонцы апублікавала яшчэ тры вершы Аляксея Пысіна: „Агонь ці кроў сцякае на дубровах...", „Рэдка бачым мы птушак сваіх...", „Не ўсе лясы мае згарэлі...", якія таксама ўвайшлі ў кнігу паэта „Твае далоні".

Вершы Аляксея Пысіна друкаваліся і пазней у тыднёвіку „Ніва". Але самым шчаслівым для паэта быў 1980 год. У студзені ў „Ніве" былі змешчаны тры вершы паэта, а 19 і 20 чэрвеня паэт сам прыехаў на Беласточчыну. Прыехаў з пісьменнікам Аляксеем Гардзіцкім. Паездка на Беласточчыну была для Аляксея Пысіна вяртаннем у маладосць. Госці з Беларусі ў той час цікавіліся жыццём беларусаў на Беласточчыне, найперш іх культурнай і літаратурнай творчасцю. Аляксей Пысін з Аляксе-

працяг ☞11



Традыцыі кнігавыдання ў Беларусі маюць глыбокія карані — тут дастаткова ўзгадаць Францыска Скарыну. У старадаўнія часы кнігі былі сімвалам ведаў, мудрасці і, нават, багацця. За мінулае паўтысячагоддзе многае змянілася. Сёння кніг у свеце столькі, што наяўнасць пералічыць іх усіх наўрад ці магчыма.

Здаецца, калі б кнігадрукаванне заставалася толькі папяровай справай, то свет захлынуўся б у моры старых і нікому ўжо непатрэбных кніг, часопісаў, брашур і гэтак далей. Але з надыходам эры інфармацыйных тэхналогій папера, нават у кнігадрукаванні, перастала быць найгалоўнейшай рэччу. Доказ таму — электронныя кнігі, якія кожны, маючы выйсце ў інтэрнэт, можа запампаваць іх хоць цэлыя бібліятэкі. Праўда, такая бібліятэка будзе мець вельмі малы аддзел беларускай кнігі, бо не так многа іх выходзіць з друку нават у Беларусі. Да прыкладу, за 2011 год на беларускай мове было выдадзена 940 найменняў кніг і брашур накладам 2,9 млн. асобнікаў, што меней у параўнанні з папярэднім годам на 1,2%, а па накладзе — на 27,5%. Беларускамоўная літаратура займала ў 2012 годзе ў Беларусі толькі 8,5% у агульнай колькасці выдадзенай у краіне выдавецкай прадукцыі і яе накладзе. Такія дадзеныя падае беларускае міністэрства інфармацыі на сваім сайце.

Магчыма, нейкім чынам могуць палепшыць сітуацыю электронныя выдавецтвы, якія займаюцца публікаваннем толькі электронных версій кніг. Адно з іх — BYBOOKS.

Сайт электроннага выдавецтва месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://bybooks.eu**. Шчыра кажучы, надта прываблівай гэтую віртуальную прэзентацыю не назавеш — усё даволі просценька і даволі блякла. Выява першай старонкі сайта больш нагадвае папросту прыгожа аформлены аркуш паперы з выявамі прыгожа аформленых назваў кніг, што апублікавала выдавецтва. Іх, дарэчы, пакуль не надта многа, прынамсі, на галоўнай старонцы выстаўлена толькі восем.

Разам з кнігамі ў электронным фармаце на сайце можна прачытаць асобныя апавяданні, вершы, расповеды. Выйсці на іх можна праз рубрыку „Апошнія творы". Ну а ўсе творы на BYBOOKS апублікаваны як на беларускай, так і на рускай мовах.

Стваральнікі электроннага выдавецтва вельмі дбаюць пра свае аўтарскія правы і пра тое, каб ніхто іх не парушаў. Нават у кароткай самапрэзентацыі — рубрыцы „Пра нас" — яны надаюць значную ўвагу менавіта гэтым пытанням. „BYBOOKS — электроннае выдавецтва з Беларусі. Мы звяртаемся ў любую справу, калі яе робяць шчырыя, самастойныя і творчыя людзі. Мы шукаем новыя тэксты і новых аўтараў. Усе правы на тэксты, якія тут знаходзяцца, належаць BYBOOKS. Любое іх выкарыстанне без нашага дазволу — гэта грэх і злачынства", — сцвярджаюць уладальнікі электроннага выдавецтва.

Акрамя звычайнага запрашэння да высылання на адрас BYBOOKS сваіх твораў, электронныя выдаўцы абвесцілі пра конкурс маладых пісьменнікаў. Каб даведацца пра яго ўмовы, трэба клікнуць на жоўты банэр пасярэдзіне цэлага выяўлення, які заклікае маладых літаратараў не пісаць „у стол". Рэдакцыя абяцае на падставе каментарыяў, рэцэнзій, а таксама свайго рэдактарскага досведу да 15 лістапада штомесяц абіраць з ліку аўтараў таго, чыя кніга выйдзе пад лагатыпам BYBOOKS.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Фота Уладзіміра ХІЛЬМАНОВІЧА

Мястэчка цудатворнага абраза

# 400 гадоў з дня надання Жыровічам Магдэбургскага права

Мястэчка Жыровічы, што на Слонімшчыне, трывала ўвайшло ў гісторыю Беларусі як адно з вельмі адметных сакральных месц. Сюды праз стагоддзі прыязджаюць і прыходзяць пілігрымы і турысты з розных куткоў краіны, бліжняга і далёкага замежжа. 14 траўня грамадскасць адзначала 400-я ўгодкі з часу надання Жыровічам права на гарадское самакіраванне — адпаведны прывілей быў нададзены ў 1613 годзе. Праўда, іншыя крыніцы падаюць таксама дату 25 чэрвеня 1652 года, але, імаверна, гэта было ўжо пацвярджэнне гарадскіх правоў.

А гісторыя заснавання паселішча, паводле легендарных звестак, пачалася ў 70-80-х гадах XV стагоддзя, калі пастушкі знайшлі ў лесе цудоўную ікону. Уладальнік мясцовых зямель Аляксандр Солтан, які атрымаў іх ад вялікага князя Казіміра, пабудаваў на тым месцы царкву. Спярша яна была драўлянай, а пасля 1500 г. быў узведзены мураваны храм. Рэлігійны асяродак быў ад пачатку праваслаўным, а потым стаў уніяцкім. Праз стагоддзі гісторыя зноў павернецца ў іншы бок.

Вакол манастыра ў пачатку XV стагоддзя стаў развівацца пасад. Урадавыя ільготы і шчодрыя багатыя наданні розных каралёў і магнатаў вабілі жыхароў, якія перасяляліся ў гэты пасад. Атрыманне Жыровічамі Магдэбургскага права яшчэ больш спрыяла гэтаму працэсу. Неўзабаве Жыровічы зрабіліся буйным гандлёвым цэнтрам, што карыстаўся ўласным гербам. На гербе мястэчка ў блакітным полі выява двух мужчынскіх постацей — адна стаіць на каленях, іншая трымае ў выцягнутых руках кнігу.

Пазней Жыровічы спасціглі і змрочныя падзеі. У час так званага патопу ў 1655 г. казацкія загоны спалілі мястэчка і манастыр. Спатрэбіўся значны час на адраджэнне паселішча і рэлігійнага асяродка. У 1661 годзе Жыровічы „навечна" былі вызвалены ад ваеннага пастою і на чатыры гады ад выплаты дзяржаўных падаткаў. А 19 верасня 1730 г. у Жыровічах адбылася ўрачыстая каранацыя цудоўнага абраза Маці Божай. Карону, упрыгожаную каштоўнымі каменямі, ахвяравала княгіня Ганна Радзівіл. Абраз захоўваўся пад шклом у залачоных шатах. Пасля гэтага колькасць паломнікаў сюды яшчэ больш узрасла. Захоўваюць Жыровічы свой статус культавага асяродку і да сёння.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Яны зацікаўлены „Нівай”

На старонках „Нівы” важнае месца займае праблема аховы роднай мовы. Каб яе ахоўваць, на маю думку, дык, між іншым, трэба падпісвацца на родны часопіс і яго чытаць.

Я вельмі цаню тых новаляўкоўцаў і плянтаўцаў, якія чытаюць „Ніву” пастаянна. У Новым Ляўкове кожную „Ніву” чытаюць Яўгенія і Яўген Смольскія, Зіна Сахарчук, Валянціна і Аляксандр Ігнацюкі, Марыя і Канстанцін Целушэцкія, Людміла і Барыс Казлоўскія, Галіна і Юрка Казлоўскія, Ніна і Міхал Целушэцкія ды Міхал Болбат. Крыху радзей бяруць у рукі родны штотыднёвік Лідзія Галубоўская, Ніна Галубоўская, Ян Сахарчук, Сяргей Целушэцкі, Ніна і Юрка Рубчэўскія ды Малгажата і Славамір Смольскія. Беларускі каляндар „Нівы” на 2013 год маюць усе!

У Плянце пра „Ніву” не забываюць перш-наперш Зоя і Уладзімір Клімюкі, Валянціна Самойлік, Галіна Бірыцкая, Марыя і Ян Янелі ды Яніна і Юрка Ляткоўскія.

Нашы чытачы — людзі адкрытыя і неабыякавыя да беларускай мовы. Яны з пашанай адносяцца да ніўскага карэспандэнта з Новага Ляўкова. Часта ад яго артыкулаў пачынаюць агляд новага нумара „Нівы”.

## Чаму ў Гайнаўцы не купіце „Нівы”?

11 мая г.г. я хацеў купіць новы, 19-ты нумар беларускага штотыднёвіка „Ніва” ад 12 мая 2013 года ў пунктах продажу ў Гайнаўцы. І роднага часопіса не ўдалося мне купіць. Газетна-часопісныя кіёскі „Рух” па вуліцах Ю. Пілсудскага, кс. І. Верабея і 3 Мая не працуюць, яны закрыты наглуха. Ёсць яшчэ адзін такі кіёск у цэнтры горада па вул. 3 Мая. Ён прыватны. У ім „Ніву” не прадаюць ад пачатку гэтага года. Няма яе таксама ў кіёску па вул. Арміі Краёвай. Ужо дзе як дзе, але каб у Гайнаўцы не можна было купіць „Нівы” — гэта ўжо скандал!

Чытачам нашага роднага часопіса ў Гайнаўцы раім паспяшацца зрабіць падпіску на квартал або ўвесь год. Гэтак бачу адзінае выйсце з такой сітуацыі. І будзеце мець беларускі штотыднёвік пастаянна.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# АБ’ЯВЫ

Кафедра беларускай культуры
Філалагічнае аддзяленне
Універсітэт у Беластоку
запрашае на выставу

**„Мікола Гайдук (1933-1998). Чалавек і творчасць”**

**17.05.2013**
**гадз. $10^{00}$,**

Універсітэцкая бібліятэка
вул. М. Кюры-Складоўскай, 14А,
зала 204 у рамках
XI Фестывалю навукі і мастацтва

"Piwnica Kulturalna"
Stowarzyszenie AB-BA — Аб'яднанне АБ-БА
"Склеп з культурай"

Дыскусійны клуб „**АБ-БЫ**”
Пагаворым пра бурлівы
час развалу камунізму

Сустрэча з
**Джоан Айві Станкевіч і Вячкам Станкевічам з ЗША**

**Джоан Айві Станкевіч** — амерыканка, аўтарка кніжкі «Жыццё з водарам небяспекі: Эўрапейскія прыгоды падчас падзення камунізму», у якой расказвае пра дасведчанні з перыяду *халоднай вайны* ў Еўропе. Апісвае прыгоды, сустрэчы з палітыкамі і звычайнымі людзьмі ў краінах за *жалезнай заслонай* у гады, калі разбураўся камунізм, а яе муж, **Вячка Станкевіч**, працаваў на Радыё Свабода ў Мюнхене і ў Празе.

**16.05.2013** (чацвер) $18^{00}$
Пачатковая школа № 4
у Беластоку
вул. Чэнстахоўская, 6а

Projekt realizowany dzięki dotacji
Marszałka Województwa Podlaskiego

10 ☞ працяг

## Аляксей Пысін і Беласточчына

ем Гардзіцкім пабывалі ў рэдакцыі „Нівы”, пазнаёміліся з яе супрацоўнікамі, вялі гутаркі пра ўзнікненне пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве і „Ніве” літаратурнага асяродку, пра яго дзейнасць. Беларускія пісьменнікі расказалі пра літаратурныя справы ў Беларусі, пра культуру і гісторыю. Затым іх знаёмілі з Беластокам.

Візіт Аляксея Пысіна і Аляксея Гардзіцкага ў „Ніве” асвятлялі гісторык і журналіст Мікола Гайдук, паэт і журналіст Міхась Шаховіч. Першы — пісаў, другі — фатаграфаваў. „Аляксей Пысін, — паведамляў Мікола Гайдук у „Ніве” 13 ліпеня 1980 года, — зачараваў дэкламацыяй сваіх вершаў з розных гадоў — і тых, што паўсталі яшчэ ў школьныя гады, і тых, якія нарадзіліся ў апошнія дні. Уражвала глыбіня дум і пачуццяў гэтай самабытнай лірыкі. Яна перапляталася ў нейкае лагічнае цэлае з успамінамі паэта пра яго змаганне на розных франтах вайны, працу ў мірны час, бо з гэтага і бярэцца яе радавод”.

На другі дзень беларускія літаратары наведалі Бельск і Белавежу. У Бельскім беларускім ліцэі госці сустракаліся з ліцэістамі і настаўнікамі, наведалі спецыяльны кабінет-музей, прысвечаны Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе і яе заснавальніку і кіраўніку Браніславу Тарашкевічу, імя якога нададзена ліцэю. Потым госці наведалі Бельскі дом культуры, дзе сустрэліся з групай маладых мясцовых літаратараў.

Падчас візіту ў Бельск Аляксей Пысін наведаў і брацкую магілу ў Піліцкім лесе, дзе пахаваны яго сябры і проста знаёмыя, якіх да вайны ведаў паэт. Усе яны загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. І, як пісаў журналіст Мікола Гайдук, „балючае было вяртанне ў маладосць для Аляксея Пысіна. І хіба толькі пошум Белавежы змог суцішыць боль у душы паэта”.

Калі Аляксей Пысін наведаў рэдакцыю „Нівы”, ён абяцаў рэдактару Георгію Валкавыцкаму, што напіша ўспаміны з бельскай маладосці. Але гэтыя ўспаміны Аляксей Васільевіч так і не напісаў. А ў „Ніву” прыслаў толькі тры свае вершы: „Балада сагнутых бабуль”, „Даль вечнасці без берагоў...” і „Заспявай, мой дружа, заспявай...”. Яны былі апублікаваны на першай старонцы „Нівы” 18 студзеня 1981 года. У адным з гэтых вершаў вялікі беларускі паэт пісаў:

Даль вечнасці без берагоў,
Ды час мы адлічваць павінны...

У „даль вечнасці” Аляксей Пысін адышоў 27 жніўня 1981 года. Ён памёр у Магілёве і пахаваны там на Польскіх (якое супадзенне!) могілках на вуліцы Лазарэнкі.

# Адгаданка

1. месца для спання з прасцінай, падушкамі і г.д., 2. жыхар Кракава, 3. пустынны абоз з вярблюдамі, 4. прыбор з цецівой для пуску стрэл, 5. кіраўнічая частка ўстановы, 6. садовае дрэва з сакавітымі цёмна-чырвонымі костачкавымі пладамі, 7. вясельны абрадавы пірог, 8. інертны газ, які выкарыстоўваецца ў яркіх рэкламных прыладах, 9. брус у ніжняй частцы дзвярнога праёму, 10. трэці гук музычнай гамы, 11. прылада для рэзання тканіны або традыцыйнай стрыжкі авечак, 12. апошні ўладар ацтэкаў.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм Франсуазы Саган.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | 2 | 3 | | |
| | | 4 | | 5 | 6 | | | | | | | |
| | 7 | | | 8 | | | | | | 9 | | |
| | | | | 10 | | | | 11 | | | | |
| | | | | | | | | | | 12 | | |

**Адказ на адгаданку з 15 нумара**

Ара, бюро, дзень, дэбет, зіма, кіно, кіч, лад, Ленін, цела, чайнік.

Рашэнне: **Тэлебачанне ніколі не заменіць добрай дзіркі ад ключа**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Мікалаю Сазановічу** з Навін Вялікіх.

# 19.05 — 25.05

**(22.03. — 20.04.)** 19.05.-23.05. будзеш прымушаны да канструктыўных змен, справішся з выклікам, удасца закончыць табе некалькі спраў. 19-20.05. засумуеш па гармоніі і спакоі на працы. Калегі будуць цябе дарыць сардэчнасцю, зможаш пераканаць іх да сваіх задум. Добры час для складання планаў; у далейшым напэўна здзейсняцца.

**(21.04. — 21.05.)** 19-20.05. у тваім жыцці можа паявіцца хтосьці важны. З 23.05. (да 27.05.) будзе нагода, каб перастаць скрываць пачуцці. Сітуацыя высветліцца ў тваю карысць (21-25.05.). Ды 19-22.05. дробныя перашкоды могуць салідна вырасці. Чацвер — добры час для рэалізацыі творчых задум. У суботу не кладзі грошай на кухонны стол.

**(22.05. — 22.06.)** Нават у найлепшых парах цікуюць праблемы. 19-20.05. зоркі будуць заахвочваць да змен у штодзённым жыцці. Значна папраівіцца форма з 20.05., з 23.05. будзеш мець больш сілы і ахвоты да дзеяння. Не раскідайся грашыма. Кальцавое зацьменне Месяца (25.05.) падсуне табе кепскіх дарадчыкаў. Пільнуйся! За небдуманыя рашэнні можаш балюча паплаціцца!

**(23.06. — 23.07.)** Да 25.05. будзеш адчуваць сябе цалкам добра. Фінансы ў парадку, варта зайграць у латарэю. 21-25.05. прадбачваецца шмат дробных нагод для заробку. Ды 19-23.05. могуць сустрэць цябе прыкрасці з боку шэфа. Нават калі будзеш перакананы ў сваёй рацыі, не спрачайся. Чацвер — вырашальны дзень: менавіта тады можаш сустрэць чалавека з тваіх мараў.

**(24.07. — 23.08.)** У апошняй дэкадзе (з 23.05.) магчымасць павышэння; варта за яго пазмагацца і не баяцца адчайнай канкурэнцыі. Твае задумы свежыя, ты сам кемлівы, чакае цябе поспех. Толькі будзь цярплівым! Глыбей унікай у прапановы сваіх калег і блізкіх. 25.05. можаш памылкова ацаніць сітуацыю сваіх дзяцей, пільнуй з кім іх пакідаеш або з кім сустракаюцца.

**(24.08. — 23.09.)** 19-20.05 не пазычай, пільнуй кашалёк. Да 22.05. прыгадаеш свой балючы вопыт. Не паўтарай сваіх памылак! Варта паехаць кудысьці, усё перадумаць. Трохі горшы настрой пасля 20.05., потым і здароўе (асабліва глядзі на тое, што ясі), не шкадуй сабе сну; 20-24.05. могуць дарвацца да цябе і сумненні, лёгка паспрачаешся з блізкімі.

**(24.09. — 23.10.)** 19-20.05. радасць, задавальненне, прымірэнне. 21-25.05. — аптымізм і адкрыццё на блізкіх. Твая дапамога будзе неацэннай. У пары — вы гарманічны дуэт. З 24.05. не атруціся ежай. Зоркі спрыяюць шанцам і спадзяванням на добрыя змены. З канцом месяца пачнеш адчуваць стому і знерваванне.

**(24.10. — 22.11.)** 21-23.05. — нервовыя дні, мноства напруг і стрэсу; лепш не катайся на машыне. Папраівіцца твая форма. Можаш наставіцца на кар’еру сола. З бізнесовых кантактаў могуць вынікнуць у будучыні самыя добрыя рэчы, цікавыя прапановы супрацоўніцтва, дапамога ў фінансавых датацыях або павышэнне. Зацьменне Месяца (25.05.) добра табе не прадвяшчае ў фінансавых справах; пазбягай важных рашэнняў, бо хутчэй на іх нямала страціш.

**(23.11. — 22.12.)** 18-20.05. цяжкасці, горшая форма, шмат нерваў. Пры саперніцтве паправсі дапамогу ў сяброў. Варта выбрацца да касметолага, можна і самому пакласці хатнія маскі на твар (з харчоў — сыр, мёд, агуркі, жаўток...), валасамі займіся пасля 25.05. Далей сядзіш на жыле золата — прыгадай свае старыя задумы як падзарабіць.

**(23.12. — 20.01.)** Папраівіцца твой настрой, будзеш проста прамянець, будзеш энергічны, адчайны. Добры настрой агорне твой дух і цела, зрэалізуеш усё, што задумаеш. Добры час пачаць худзець і засвойваць новыя харчовыя навыкі. 21-26.05. знакаміты час на супрацоўніцтва і важныя фінансавыя рашэнні. Але ж 20-24.05. не рызыкуй у інтарэсах!

**(21.01. — 19.02.)** 19-20.05. ажыўленне пачуццяў і жарсцяў. Прыліў энергіі пасля 20.05. 19-23.05. — росквіт прафесійнага жыцця; даб’ешся свайго! Але ж 19-23.05. могуць быць фрустрацыі, нязздзейсненыя мары, нявыкананыя абяцанні. Нялёгка будзе і 22-26.05., новыя абавязкі стомяць цябе і прыгнятуць сваёй маштабнасцю; не дапускайся да „хвастоў”.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** 19-20.05. можаш пабаяцца, што не дасі рады, не палохайся абычым! Зоркі схочуць папхнуць цябе да рызыкі, маеш шанцы, але не спадзявайся хуткага выніку — узнагарода будзе праз нейкі час. Не абяцай больш, чым можаш. У пятніцу ці суботу чакае цябе хуткі раман, які міне таксама хутка.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Як Мікола Лук'янюк ладзіў сталы!

Над раніцай, у Вялікую Пятніцу прысніўся мне пакойны Мікола Лук'янюк з Бялкоў. Ён зайшоў у рэдакцыю „Нівы" і рашучым крокам наблізіўся да майго пісьмовага стала. У руцэ віднелі малаток і гвоздзі...

Я прачнулася з радасцю ў галаве, хоць у грудзях яшчэ шчымеў боль ад прывіднага кашмару, які прысніўся перад з'яўленнем адышоўшага ў лепшы свет.

Нечаканае з'яўленне ва сне дзядзькі Міколы падзейнічала як гаючы бальзам, супакоіла, паколькі кожнае яго рэальнае з'яўленне ў рэдакцыю „Нівы" выклікала здаровы жартоўны настрой. Мікалай Лук'янюк меў для кожнага прывітанне, а для мяне спецыяльную пагаворку:

— *Гандзя, а ты шчэ з тым самым?!*

— *З тым самым!* — адказвала я задаволена.

Для малазарыентаваных у падляшскай фразеалогіі падкажу, што такі зварот абазначае непахіснае захапленне. Пачуць штосьці такое прыемна і адначасова смешна.

Дзядзька Коля (так у сяброўскім крузе мы пра яго казалі) праяўляў сваю сімпатыю да журналістак яшчэ ў вельмі канкрэтны спосаб, менавіта з малатком у руках...

* * *

23 сакавіка, у сонечна-марозную суботу, разам з рэдактарамі Яўгенам Вапам і Віталем Лубам, паехалі мы ў Трасцянку аддаць апошні паклон ніўскаму карэспандэнту. Мікола Лук'янюк памёр ад прастуды на 79 годзе жыцця, пакінуўшы жонку Сафію. На літургію і паніхіду ў прыхадской царкве ў Трасцянцы з'явілася сям'я і жменька аднавяскоўцаў, сярод якіх перавагу складалі пенсіянеркі. У грамадзе прасякнутай траўмай гаварылі яшчэ пра адну бяду. Якраз у беластоцкай бальніцы паміраў іх настаяцель Юры Ахрымюк. З-за яго працяглай хваробы парафію абслугоўвалі свяшчэннікі з наваколля. У гэты раз з'явіўся бацюшка Юры Смактуновіч з Пасынак. Хор, які састаўлялі тры асобы разам з рэгентам Міхалам Максімчуком, уразіў старажытным спалучэннем царкоўных і народных напеваў. Якім цудам ён тут яшчэ захаваўся?! Жалобнае шэсце на могілкі адбывалася спачатку пешшу, пасля на машынах і *бусах*. У час падарожжа жанчыны з Бялкоў ахвотна ўспаміналі Міколу Лук'янюка, запамяталі яго як шчырага беларуса і спантаннага асветніка.

— Сядзе на лавачцы і „Ніву" для нас чытае, або раскажа што цікавага ў свеце, — кажа жанчына. — І нас намаўляў, каб „Ніву" *бралі*. А кніжак у яго было многа-многа, што ў горадзе столькі не маюць!

Пра тое, што адышоў заслужаны для грамадства чалавек не гаварылася, хоць гэта ўсе адчувалі, і пацішку шкадавалі, што завяршыўся яшчэ адзін лёс. На шчасце, ён часткова запісаны ў аўтарскай кніжцы „З нарваўскага боку" і карэспандэнцыях, якія з'яўляліся на старонках тыднёвіка больш за паўстагоддзя.



Фота Міры Лукшы

## Каб былі здаровы

*Каб усе былі здаровы,*
*Не пакіньце роднай мовы.*
*Трэ свой мовай ганарыцца*
*І ніколі не забыцца.*
*Куды б ехаў, дзе б не быў,*
*Каб роднай мовы не забыў!*
*Сваю мову трэба знаць,*
*І ёй дзетак навучаць.*
*Не забудзь пра родну мову*
*(Тады будзеш і ты здаровы),*
*Каб ніколі не прапала*
*І ў пашане панавала.*
*Тым, што пішуць і чытаюць,*
*Шчасця і долі ўсім жадаю.*

* * *

Допісы Міколы Лук'янюка я цаніла з-за іх народнага каларыту, жывой мовы і жадання, каб усё было добра. Менавіта дзядзька Мікола моцна перажываў усякія падыходы і сваркі паміж беларускімі арганізацыямі. У адным сваім допісе ён прапанаваў беларускім лідарам наладзіць круглы стол. У якасці месца сустрэчы прапанаваў сваю хату ў Бялках, ды яшчэ паабяцаў добра ўгасціць удзельнікаў перамоваў. Магчыма, пад уплывам запрашэння, мы ўсе пачалі ездзіць у госці да дзядзькі Колі і цёці Соні. Прывозілі да іх даследчыкаў і журналістаў з глыбі Польшчы і замежжа, сяброў і знаёмых. У Бялках сустракалі нас заўсёды з непадманутай радасцю і цікавымі расказамі. Пакойны Мікалай Лук'янюк умеў не толькі жартаваць. Ён не ўцякаў у падлізніцтва і падвойную мараль: адну для сваіх, другую для чужых. Карацей кажучы, умеў гаварыць пра складаныя і балючыя справы. За гэта ці цанілі яго нашы госці. Звычайна ў зваротнай дарозе яны ўголас перажоўвалі пачутыя інфармацыі і называлі гаспадароў „соллю зямлі". Без такіх людзей як дзядзька Коля нашае грамадства напамінала б таўканіцу, да якой не дасыпалі солі.

* * *

Ды на канец час паясніць пры чым тут малаток і гвоздзі. Найперш трэба згадаць легендарную рэдакцыйную мэблю перыяду позняга Гамулкі. Новая мэбля ў „Ніве" з'явілася аднасна нядаўна, ужо пасля суду, пры рэдактары Вапе. Раней я працавала за выслужаным пісьмовым сталом, які ад старасці рассыпаўся ўвачу. Але найгорш было з шуфлядамі і абламанымі паліцамі. Хапіла хвіліна няўвагі, каб зачапіцца за шурпаты кант і падзерці чарговыя калготкі. Гэтае маўклівае адчуванне дыскамфорту неяк мусіў прыкмеціць наш карэспандэнт. У час чарговага прыезду ён з'явіўся з малатком і патрэбнымі прыладамі ды з ходу ўзяўся рамантаваць легендарную руіну. Гэты канкрэтны і нечаканы жэст настолькі мяне захапіў, што сам успамін па сённяшні дзень наклікае радасць у душы. Пасля дзядзька Мікола заўсёды прыязджаў з малатком і ў рамках прафілактыкі нешта прыбіваў, рамантаваў. Я ў сваю чаргу не магла надзівіцца інтэлігентнасці гэтага простага чалавека, які разумеў больш, чым сучасныя, так званыя гуманісты. Гэты менавіта ўспамін непрыкметнай і адначасова патрэбнай дапамогі па сённяшні дзень грэе сэрца і натхняе да працы з людзьмі і для людзей.

Ганна КАНДРАЦЮК



Фота Ганны Кандрацюк

*Мікола Лук'янюк*

## Адзін

*Калі адзін астанешся*
*Ў сваёй роднай хаце,*
*Да каго азвешся?*
*Каму што сказаці?*
*Сядзеш пад аконцам,*
*На свет падзівіцца.*
*Грэешся на сонцы,*
*А ў сэрцы журыцца.*
*Так сядзіш у цішы,*
*Над усім разважаеш,*
*Ці ты ўжо нажыўся,*
*Што шчасця не маеш?*
*Так плывуць мінуты,*
*Аж сам скалыхнешся.*
*Ці крышку здрамнуў ты,*
*Ці табе здаецца?*
*Сумуеш з тугою,*
*Над сваёю доляй,*
*Каб не быць ніколі*
*Круглым сіратою.*
*Дзеці разышліся*
*Па ўсёй дзяржаве.*
*У іх свае сем'і*
*І свой клопат маюць.*
*Хай жывуць шчасліва,*
*Таго ім жадаю,*
*Ды не забываюць*
*Маю хату скраю.*
*Словам абмяніцца,*
*Пра клопат сказаць,*
*Як там ім жывецца,*
*Ліст каб напісаці...*
*Вельмі таго просяць*
*Вашы бацька й маці.*

## Дубы

*На ўзгорку пры дарозе*
*Там стаялі два дубы.*
*Між сабою гаманілі,*
*Дзе сястрычку ім знайсці.*
*Кажа дуб сваёму брату:*
*„Глянь улева, падзівісь:*
*Там у даліне пры лужочку*
*Гай зялёненькі стаіць.*
*То сястрычкі там, бярозкі,*
*Між сабою так шумяць,*
*Вецер іх галлё калыша,*
*Аб чым кажуць – не чуваць.*
*Трэба нам ім пакланіцца,*
*Нізка галаву схіліць,*
*Паўслухацца, што гавораць*
*І з імі пагаманіць".*
*А бярозкі ўсе, сястрычкі,*
*У свежым вецці ад вясны*
*Шчыра разам весяліліся,*
*Што зялёны гай яны.*
*А дубочкі, два браточкі,*
*Збоку там сабе стаяць,*
*Як дзве мілыя сіроткі*
*Між сабою гутараць.*
*Тут прахожы ішоў дарогай,*
*Сеў пад імі адпачыць*
*І аб чым шумяць паслухаць*
*Ды з імі пагаварыць.*
*А дубы яму сказалі:*
*„Ты, прахожы, не тужы,*
*З крыніцы папі вадзіцы*
*Ды далей сабе ідзі..."*

ISSN 0546-1960